*Уражанні*

Разнастайныя жыццёвыя акалічнасці прымусілі мяне быць у Маскве напярэдадні Новага, 1996 года і ў першы яго дзень. Падсвядома сама сустрэча з гэтым горадам чакалася з вялікай цікавасцю. Бо Масква — гэта не проста велізарны горад, не толькі сталіца былога «непераможнага СССР» і Расіі зараз, а месца, з якога на працягу 78 апошніх гадоў (да 1993 — уключна) ішла безупынная непрадказальная пагроза «разбурыць увесь свет насілля, галодных і рабоў» і на яго

***Аляксей САЛАМОНАЎ,***
***прафесар***

# Моўныя братэрскія сустрэчы на вуліцах загадкавай Масквы

абломках пабудаваць рай зямны для тых, «хто быў нікім». У выніку само паняцце Масква было таямнічай з'явай. Таму што разумныя людзі ніяк не маглі ўцяміць, навошта ўсё створанае разбураць, як са знішчанага «до основанья» пабудаваць хоць штосьці, не кажучы ўжо аб раі, як насуперак законам прыроды з нічога можна зрабіць усё, а тым больш — пралетарыям. З глузду збівала галоўнае пытанне: як гэта можна (у адпаведнасці з «тэорыяй» марксізму-ленінізму) працаваць як прыйдзецца, а браць — колькі захочацца. І калі толькі гэтае пытанне выказвалася ўслых, то той, хто пытаўся, аб'яўляўся ворагам народа з адпаведнымі «аргвынікамі» ці знішчаўся адразу. Здзіўляла людзей свету найбольш тое, што яшчэ не знішчаныя (таму што чарга не дайшла) альбо не выгнаныя, ва ўсю моц гарла распявалі песні «Эх, как хорошо в стране советской жить!..» Апошнія ж расійскія падзеі (вайна ў Чачні, вынікі выбараў у Думу, грамадскае бязладдзе, жабрацтва пры самай вялікай у свеце забяспечанасці прыродным багаццем) пакрываюць Маскву туманам новай загадкавасці і страху перад Расіяй.

А, між тым, у той жа Маскве нямала людзей, надзеленых глыбінным розумам, святой духоўнасцю, адказным сумленнем і клопатам за лёс не толькі Масквы, Расіі, расійскага і калісьці апалоненых народаў, але і — за будучае ўсяго чалавецтва. Чаму ж яны неўплывовыя, чаму «великий русский народ» не хоча альбо ўжо не можа разабрацца ў самым простым, без разумення якога любое грамадства ператвараецца ў тоўпішча людзей, кожны з якіх думае толькі аб сваім страўніку.

У той жа час афіцыйная Расія зноў заяўляе аб сваіх інтарэсах не толькі на тэрыторыі краін так званага СНД, але прэтэндуе на ўратаванне ўсяго чалавецтва.

На шчасце, першым, хто сустрэў мяне ў Маскве, быў чалавек, адданы поўнасцю клопатам аб шматпакутніцы Беларусі, Аляксей Канстанцінавіч Каўка, кандыдат гістарычных і доктар філалагічных навук — чалавек духоўнасці, сумлення і гонару. Хоць і пасаромеўся я перакладаць цяжар свайго роздуму на яго, але шчырая размова з ім крыху зменшыла ціск расійскай бязглуздзіцы на маё сэрца.

Другім чалавекам, з якім я сустрэўся ў Маскве, была жонка майго брата (Пятра), Саламонава Ганна Мікалаеўна. Дарэчы, Пётр — таксама навуковы супрацоўнік у галіне авіяцыйнай тэхнікі, у апошнія гады займаўся пытаннямі канструкцыі знакамітага шматразова выкарыстоўваемага спадарожніка Зямлі «Бурана», КПСС пакінуў сам за 3 гады да яе разбурэння, Аня — вопытны ўрач-эндакрынолаг і чалавек, надзелены аналітычнымі здольнасцямі мыслення. Пагутарыў з ёю, як тыя сем някрасаўскіх мужыкоў, якія шукалі адказу на пытанне: «Кому живется весело, вольготно на Руси». Штосьці ўразумеў, а потым пайшоў «у народ» маскоўскі — на вуліцы, у магазіны, на аўтобусныя і тралейбусныя прыпынкі. Звяртаўся, размаўляў, імкнуўся быць «сваім хлопцам», каб размова была шчырай, «ад душы». Гэтым займаўся вечарам перад самым Новым годам і назаўтра, калі ўжо людзі былі разагрэты святкаваннем. Па-рознаму яны ўцягваліся ў мой роздум. Па-рознаму і адказвалі. Адзначу толькі, што размаўляў я з усімі выключна на беларускай мове. Ніхто не пярэчыў, ніхто не зневажаў, нават не здзіўляўся. Толькі, вядома, перапытвалі сэнс некаторых выразаў. Я рабіў гэта і ў час іншых паездак у Маскву, у Санкт-Пецярбург. Таму магу ўпэўнена сказаць, што адносіны расіян да нашай мовы ў цэлым паважальныя. Многія ж расійцы ў Беларусі і «ідэйныя» беларускія камуністы, наадварот, язык мне гатовы вырваць за маю беларускую мову, якою я карыстаюся паўсюды.

Праўда, паважальнасць да нашай мовы, хоць і супакоіла мяне, але адказу на роздум не дала. Аднак ён знайшоўся сам сабою, калі я прааналізаваў усё тое, што чуў. І тады мне стала жудасна. Бо ўся прычына, як мне паказалася, звязана са знікненнем альбо катастрафічным збядненнем «русской души». Таму што знікае сам так званы «великий и могучий язык». Ён выцясняецца трохпавярховым матам, які ўключае ў сябе толькі некалькі самых дэбільных, бессаромных слоў. А калі знікае мова, як носьбіт лепшых духоўных набыткаў народа ў яго зносінах з грамадствам і навакольным прыродным асяроддзем, то знікае і чалавек. Ён ператвараецца ў спрошчаную істоту з яе інстынктамі ў больш горшым выглядзе, чым у самых шалёных звяроў. Таму паступова знікаюць здольнасці да мыслення і простага лагічнага аналізу. Для доказу прывяду прыклады адказаў, якія я чуў ад п'яных масквічоў (а іх было вельмі многа — амаль што пераважная большасць).

— А что он знает, этот е... в рот Ельцин? Сидит там под своей охраной е...его мать.

— Что ты п..д....! Виноват полужидок Гайдар, я.. его м... .

Вядома ж, я прыводжу гэтыя прозвішчы не для зняваґі паважаных мною людзей. А каб паказаць прымітыў мыслення, па прычыне замены «русского языка» «ядреным русским матом». З гэтым роздумам я пачаў чытаць «Аргументы и факты». І, на здзіўленне, заўважыў, што мат выкарыстоўваюць і людзі Расіі, якія імкнуцца там да самай вярхоўнай улады. І не саромеюцца прызнацца ў тым нават прылюдна. Так, на пытанне «Употребляете ли в речи нецензурные выражения» (гл. «Аргументы и факты» № 50 за 1995 г.) Ягор Гайдар, Уладзімір Жырыноўскі, Аляксандр Лебедзь, Канстанцін Баравы, Аляксандр Руцкі, Барыс Фёдараў, нават Ірына Хакамада адказалі (вядома, змякчыўшы сутнасць) наступным чынам: «Крайне редко; бывает, жизнь сейчас такова, что иные положения по-другому адекватно не выразишь; редко, только когда к этому вынуждают; только, когда отвечаю на вопрос о своем отношении к коммунистам; могу, когда доведут; я русский человек» (гэта значыць, — без мата не магу? — аўт.). Такія адказы аб выкарыстанні імі мата даюць людзі, якія, відавочна, будуць удзельнічаць у барацьбе за прэзідэнцкую пасаду ў «великой России». Што ж тады казаць аб мове простага народа.

Відаць, Беларусь па гэтым паказчыку набліжаецца да Расіі. Таму 86% апрошаных расійскіх афіцэраў (гл. «Аргументы и факты» № 46 за 1995 г.) назвалі Беларусь «лучшим другом». У Расіі яшчэ «нет даже главного инвестиционного проекта — плана реформ в государстве» (тая ж «АиФ», словы старшыні падкамітэта Дзярждумы Расіі па інвестыцыйнай палітыцы М.Гарачава) і ў нас думаюць будаваць (яшчэ толькі!!!) рыначны сацыялізм незразумелага зместу. Таму ў Беларусі ў Вярхоўны Савет не праходзяць людзі, якія там патрэбны, як паветра для жыцця нацыі.

Не парадавала мяне ў гэтым сэнсе і паважаная Эліна Быстрыцкая — «известная русская актриса и общественный деятель, профессор, народная артистка СССР». У «АиФ» (№ 50, 95 г.) яна разважае «о восстановлении великой России», аб «великом искусстве», аб «великой стране, защищенной в военном отношении», аб «великой русской культуре», аб «сильной армии», аб «спаяности и единстве». Толькі яна ні слова не кажа аб тым, што ўсё тое проста немагчыма без уздыму ўзроўню душы ўсяго народа. А без гэтага зноў «агрессивное меньшинство будет решать судьбу России» (яе ж, Быстрыцкай, словы). І адмоўна ўплываць на становішча суседзяў, асабліва такіх, як мы, мушу дадаць.

Ад Масквы... да ўсіх, да «до
самых до окраин»
Рускі мат усіх скашае напавал.
У Расіі... ўсюды моцны ён
«хозяин»,
У Беларусі — «па-братэрску»
гаспадар.

# Аднамоўны чалавек у двухмоўнай дзяржаве

Пасля рэферэндуму нешта зрабілася з маёй памяццю — я зусім забыў расійскую мову. Вось ведаў, і быццам бы нядрэнна, — і раптам забыў. Спачатку гэта мяне непакоіла, адчуваў сябе як хворы, як чалавек з заганай. Але потым супакоіўся: ну, жывуць жа неяк людзі, якія беларускай не ведаюць, і не сумуюць. Чаго ж мне сумаваць?

Уздыхнуў і пайшоў у Ашчадбанк атрымліваць нарэшце свае чэкі. Дзяўчына дастала прыгожы бланк, дзе на знаёмай мне мове было напісана «Рэспубліка Беларусь. Сертыфікат імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць», і пачала запаўняць яго на мове, для мяне незнаёмай.

— Пішыце на беларускай, — папрасіў я.

— А я белорусского не знаю, — збянтэжылася тая.

— А я не ведаю той мовы, на якой вы пішаце. Што ж нам рабіць?

Загадчыца, да якой я звярнуўся па дапамогу, развяла рукамі: усе яе супрацоўніцы аднамоўныя.

Вось так! Першы крок — і адразу праблема: як нам паразумецца? Ці мне, старому, зноў садзіцца за падручнікі расійскай мовы, ці ім, маладым, за падручнікі беларускай? Ды і калі тое будзе, а паперкі мне трэба ўжо цяпер, з тэкстам, які я магу прачытаць.

Праблема тут, зразумела, не ўзроставая. Дзяржаўнае двухмоўе не абавязвае кожнага грамадзяніна валодаць абедзвюма мовамі. Але калі шэраговы чалавек, якому дазваляецца быць аднамоўным, уступае ў кантакт з дзяржавай, то гэтая дзяржава ў асобе яе прадстаўніка павінна яго зразумець і адказаць на зразумелай **для яго** мове. Гэта значыць, **чалавек на дзяржаўнай службе абавязаны валодаць усімі дзяржаўнымі мовамі.**

Хто-небудзь гатовы інакш вытлумачваць вынікі рэферэндуму? Такія, ведаю, ёсць. Мне ўжо неаднойчы даводзілася чуць аб «праве выбару», аб «свабодзе выбару» мовы. Гэтымі прыгожымі словамі людзі спрабуюць абараніць сваё «права не ведаць». Але ж на побытавым узроўні на гэтае права ніхто і ніколі не пасягаў. А на ўзроўні дзяржаўным свабода аднаго канчаецца там, дзе пачынаецца права другога. Калі правы і свабоды розных людзей уступаюць у канфлікт, то павінен гаварыць Закон, Закон той дзяржавы, на тэрыторыі якой канфлікт узнік. У вышэйапісаным выпадку Закон павінен прымусіць аднаго з нас вывучыць яшчэ адну мову. Каго? Мне здаецца, што адказ відавочны.

Я разумею збянтэжанасць (магчыма, нават абурэнне) дзяўчыны, якая на рэферэндуме старанна выкрэсліла «супраць», чакаючы, што цяпер ад яе не будуць патрабаваць вывучэння беларускай мовы. Аказваецца, цяпер трэба вучыць дзве! Але што ж яна прапануе наўзамен?

Мне, чалавеку аднамоўнаму, сёння даводзіцца неяк абараняць сваю жыццёвую прастору. І я проста вымушаны пакласці ў куфэрак сваю хвалёную талерантнасць і стаць агрэсіўным. Мая агрэсіўнасць як натуральная рэакцыя на агрэсіўнае «А я не знаю вашего белорусского!» Яно ж, не ведай сабе на здароўе, але і працуй тады швачкай ці вартаўніком, дзе не будзеш сутыкацца са мной, такім жа аднамоўным, не лезь на дзяржаўную службу! Але ж лезуць. І што атрымліваецца?

Напрыклад, прынёс чалавек у ЗАГС заяву аб шлюбе, напісаную на беларускай мове (факт не вымышлены і досыць свежы), і цётка з ЗАГСа даволі энергічна пачала патрабаваць ад яго перапісаць заяву, бо «не знаю белорусского». Чалавек аказаўся ўсё ж устойлівы, і пасля даволі працяглай спрэчкі заяву ў яго прынялі. Праўда, адчуваў ён сябе пасля гэтага, як стаер на фінішы.

А колькі такіх цётак сёння на дзяржаўнай службе? Прыблізны адказ у мяне ёсць, але спачатку раскажу пра выпадак іншага роду, так бы мовіць, для паўнаты карціны.

Калі мне чарговы раз прыслалі паведамленне аб аплаце за кватэру, то я вымушаны быў пайсці ў ЖЭС з просьбай перакласці тэкст, бо «не разумею». Адна з супрацоўніц ЖЭС, не хаваючы свайго здзіўлення з такой просьбы, усё ж выканала яе, спатыкнуўшыся толькі на слове «счёт». Але тут я ўжо і сам па кантэксту здагадаўся, што гэта «рахунак» (калі няма да мяне, да маёй мовы агрэсіўнасці, то і ў мяне яна не ўзнікае). Пад канец, праўда, я вымушаны быў папярэдзіць, што калі і далей я буду атрымліваць паведамленні не на беларускай мове, то буду ўносіць плату са спазненнем, бо — «пакуль знайду перакладчыка...» Так, мабыць, і прыйдзецца рабіць, бо бланкі паведамленняў у ЖЭС дасылаюцца чамусьці толькі на расійскай мове, аб чым жанчына мне спакойна паведаміла на мове, для мяне зразумелай. Я пачціва развітаўся з ёю і пайшоў, ужо не вельмі і хочучы прытрымлівацца свайго папярэджання.

Але ж, мабыць, не адкрыю сакрэту, калі скажу, што такія сустрэчы ў дзяржаўных канторах даволі рэдкія (магу цяпер назваць лічбу, якая набыта маім уласным вопытам: адна з васьмі-дзесяці). І ўзнікае пытанне, якое не дае спакою.

Па выніках перапісу 1979 года тры чвэрці насельніцтва Беларусі заявілі, што валодаюць беларускай мовай. За шаснаццаць гадоў сітуацыя магла змяніцца, але наўрад ці вельмі істотна. Я магу даволі ўпэўнена сцвярджаць, што палова грамадзян Беларусі беларускай мовай валодае. Чаму ж на дзяржаўную службу трапляюць у пераважнай большасці тыя, хто ёю не валодае? Ці беларусы-небаракі не хочуць (не ўмеюць?) кіраваць сваёю дзяржавай? Ці... Губляюся ў здагадках.

Але ж сітуацыю трэба неяк выпраўляць, каб людзі з такой хваробай, яку мяне, адчувалі сябе больш-менш камфортна (прынамсі, не менш камфортна, чым людзі з хваробай процілеглага характару) і не падсілкоўвалі сваю агрэсіўнасць агрэсіўнасцю аднамоўнага служкі двухмоўнай дзяржавы. Як гэта зрабіць? Пытанне да Прэзідэнта і новага Вярхоўнага Савета (усё ж, Савета ці Рады?)...

Тэлефаную ў райсабес, каб высветліць пытанне з памылкай пры налічэнні пенсіі старэнькай маці. Праз некалькі слоў жаночы голас ветліва перапыняе мае тлумачэнні: «Я вас не понимаю. Говорите, пожалуйста, по-нашему». Уздыхаю і кладу трубку. Прыйдзецца зайсці ў райсабес і пашукаць там чалавека, які зразумее па-нашаму, па-тутэйшаму. Во бяда!

**Міхась БУЛАВАЦКІ,**
**выкладчык Магілёўскага педінстытута.**

***Весткі з Салігорска***

## Данос за беларускасць

Канец восені мінулага года ў Салігорску вызначыўся не толькі ростам сацыяльнай напружанасці з-за эканамічнага спаду і росту беспрацоўя, але і спробамі асобных чыноўнікаў распачаць «паляванне на ведзьмакоў-нацыяналістаў». Пачатак паклала адна кабета з гарвыканкама, напісаўшы данос на вядомую ў горадзе грамадскую дзяячку і настаўніцу беларускай мовы і літаратуры Марыю Сцяпанаўну Мацюкевіч. Асноўнае абвінавачванне — настаўніца на ўроку па кнізе Янкі Купалы «Жыве Беларусь» у якасці элементаў абсталявання выкарыстала старадаўнія нацыянальныя сімвалы беларускага народа. Дакладней, паставіла на стол бел-чырвона-белы сцяжок і выяву «Пагоні», пра якія згадваецца ў творах вялікага паэта. Аказваецца, гэта, на думку даносчыцы, ажно антыпрэзідэнцкая і антыўрадавая дзейнасць — ні больш, ні менш, а таксама ж «дрэнны ўплыў» на падрастаючае пакаленне. Адносна «ўплыву» з выканкамаўскай «бдительной» чыноўніцы актыўна не пагадзіліся бацькі вучняў настаўніцы, якія даўно ведаюць Марыю Сцяпанаўну Мацюкевіч як вопытнага, высакароднага і адданага сваёй справе педагога. Тым не менш пачаўся пэўны ўціск на дырэктара школы з боку «вертыкальшчыкаў». Урэшце М.С.Мацюкевіч вымушана была пакласці на стол «тлумачальную запіску» і старшыні Салігорскага гарвыканкама сп. М.Ф.Юрчыку.

«Запіска» атрымалася грунтоўнай. А напрыканцы яе М.С.Мацюкевіч звяртае ўвагу на тое, што «не варта шукаць ворагаў сярод тых, хто самаадданa любіць свой край, свой народ». Што да гістарычнай сімволікі беларускага народа, заўважае настаўніца, то гэта былі зусім натуральныя элементы — наглядныя дапаможнікі на адпаведным уроку, але ж ні выява бел-чырвона-белага сцяга, ні герба «Пагоня» ў Рэспубліцы Беларусь афіцыйна не забаронена, а вынікі травеньскага рэферэндуму пакуль не зацвярджаліся і ў Вярхоўным Савеце, які толькі адзін мае права ўносіць змены ў адпаведныя заканадаўчыя акты.

Чым скончыцца гэтая разагрэтая даносам «нацыяналістычная» справа, мы пастараемся паведаміць чытачам. Але сам факт падобных «баталій мясцовага значэння» сведчыць пра тое, што ні рэферэндум, ні адпаведныя яму «высочайшие» ўказы спакою беларускаму грамадству не прыбавіў.

**Ул.АСІНЕЦ.**

*Маладая Беларусь*

# Уладзімір Бельскі: «Галоўнае — змест, а не назва...»

*«Чырвонай змене» — беларускай маладзёжнай газеце — сёлета споўніцца 75 гадоў. Але, нягледзячы на «пенсійны» ўзрост і час, цяжкі для беларускай прэсы, свой юбілей газета сустракае на ўздыме папулярнасці.*

*Пра сённяшні дзень «Чырвонкі» з нашым карэспандэнтам гутарыў яе галоўны рэдактар Уладзімір Бельскі.*

**— Сёння чутны выказванні, быццам моладзь не цікавіцца амаль нічым, а ўжо беларушчынай — найменш. У сувязі з гэтым рост папулярнасці Вашай газеты падаецца абсалютна невытлумачальным...**

— Пра маладых нельга гаварыць агулам. І тым больш няслушна казаць, што яны цікавяцца адно забавамі,а не будучыняй свайго народа і краю. Менавіта маладыя сёння імкнуцца атрымаць адукацыю за мяжой, вывучыць некалькі моў, стварыць уласнае прадпрыемства. Яны могуць не цікавіцца палітыкай ці грамадскімі справамі, але ўважліва сочаць за ўсім, што адбываецца навокал. Думаю, што менавіта гэтым тлумачыцца ўздым цікаўнасці маладых да нашай газеты.

Сярод усіх маладзёжных выданняў краіны наша газета мае найбольшы наклад. Але гэта не азначае, што мы дасягнулі жаданага і пазбыліся ўсіх праблем. Імі поўнае жыццё і рэдакцыі, і чытачоў. Магчыма, нашай папулярнасці спрыяе якраз тое, што мы адкрыта гаворым з чытачамі аб тым, што турбуе іх і нас.

**— Але ж гэта не адзіная прычына?**

— Думаю, адзінай прычыны не існуе ўвогуле. Ёсць пазіцыя выдання. У сваіх стасунках і з аўтарамі, і з чытачамі, у сваіх публікацыях мы імкнёмся стварыць атмасферу шчырасці, прыязні, адкрытасці. Дзякуючы таму вакол газеты гуртуецца творчая моладзь, творчая інтэлігенцыя. Дарэчы, у апошнія гады сярод чытачоў павялічылася колькасць людзей і больш сталага ўзросту — тых, што цікавяцца гісторыяй і культурай сваёй краіны, бо якраз гэтым тэмам мы надаём шмат увагі. Час паказаў, што ў вызначэнні кола тэмаў выдання мы не памыліліся.

**— Газета змяніла тэматыку, але захавала старую, «чырвоную» назву. Чаму гэта адбылося і ці будзе так надалей?**

— Некалькі гадоў таму газета ледзьве не страціла сваю назву. У той час многія выданні стараліся забыць сваё «чырвонае» мінулае. Але мы палічылі, што галоўнае ў выданні — змест, а не назва. «Чырвонай змены» — газеты, якая ў той час пачала набываць новае аблічча, захоўваючы сваю канцэпцыю газеты беларускай моладзі, гэта датычыла цалкам.

**— У Беларусі былі і ёсць дзве маладзёжныя газеты, якія ствараюць канкурэнцыю адна адной — расійскамоўная «Знамя юности» ды беларуская «Чырвоная змена». Чым Вы патлумачыце тое, што сёння «ЧЗ» выйшла далёка наперад?**

— Рэальнай канкурэнцыі не было, бо абедзве газеты прадстаўлялі свайго заснавальніка — ЦК ЛКСМБ. Але наклад «Знамя юности» дасягаў 700000 асобнікаў, а «Чырвонкі» — не больш 12—15 тысячаў. У той час я сам працаваў у «ЗЮ» і памятаю, як мы з пагардай паглядалі на «Чырвоную змену». Але цяпер шмат што мяняецца. Сёння наклад выдання залежыць ад яго аўтарытэту сярод чытачоў, ад яго статуса. Абедзве газеты ўжо не маюць дачынення да камсамола, але, змяніўшы свой статус, яны пайшлі рознымі шляхамі. Што сёння наперадзе апынулася «Чырвоная змена» — вынік таго, што яна імкнецца быць цікавай усім маладым беларусам, а не прадстаўляць нейкія звужаныя палітычныя ці грамадскія сілы. Мы спрабуем роўна ставіцца да ўсіх і быць цікавымі ўсім.

**— Але ж газета мае свайго заснавальніка — СМБ...**

— Гэта дазваляе нам не губляць сувязяў з маладымі. Мы пішам аб дзейнасці Саюза, але заўсёды памятаем, што ў краіне існуе мноства іншых маладзёжных суполак і арганізацый. Таму, дарэчы, «Чырвоная змена» ў свой час надрукавала праграму Канфедэрацыі беларускіх маладзёжных суполак — структуры, альтэрнатыўнай існуючаму тады камсамолу. І тады, і цяпер мы жадаем не прамаўляць, звяртаючыся да маладых, а весці з імі, такімі рознымі, дыялог, як з роўнымі. Мы не прапагандуем нейкія ідэі, а адлюстроўваем жыццё вакол нас, даючы яму свае ацэнкі. Бо прынцып, якім мы карыстаемся ў сваёй дзейнасці, — неабходнасць яднання маладых беларусаў у імя лепшай будучыні. Гэтая памяркоўнасць і аб'ектыўнасць дала свой плён — прызнанне нашай газеты моладдзю.



**— Гэта дазволіла захаваць выданне?**

— Так, 21 красавіка нашай газеце споўніцца 75 гадоў. Можна па-рознаму меркаваць аб ролі, якую адыграла ў жыцці краіны і грамадства нашая газета. Можна згадаць аб тым, што яна стваралася ды кіравалася камсамолам, якога ўжо не існуе. Але нельга выкрэсліць гэты перыяд з гісторыі нашага народа. Таксама нельга забывацца і пра тое, што на працягу ўсіх гэтых гадоў «Чырвонка» існавала як беларускамоўнае выданне, нягледзячы на ўсе змены, што кранулі нашую мову і наш народ.

**Мне здаецца, аб зменах, што датычаць мовы, рана гаварыць у мінулым часе. Сёння шмат якія беларускія выданні, нават недзяржаўная «Свабода», павялічваюць на сваіх старонках колькасць расійскамоўных публікацый. Чаму гэтая плынь не кранула вас?**

— Змена мовы, як і змена назвы, азначае змену курсу газеты. Адны выданні больш падлягаюць уплыву падзеяў і зменаў, што адбываюцца навокал, і імкнуцца прыстасавацца да іх. Другія, ужываючы дзве мовы, жадаюць пашырыць кола сваіх чытачоў. Што да «ЧЗ», дык беларускамоўная яна была адпачатку і застаецца надалей. Мы лічым сябе дастаткова моцнымі і папулярнымі, каб не зважаць на кан'юнктуру.

Але, магчыма, праз нейкі час мы пачнём выданне двухмоўнага тыднёвіка, дзе па-расійску будзе рабіцца агляд «ЧЗ» за апошні тыдзень — серыі «100 артыкулаў з гісторыі Беларусі» ды іншых публікацый. Але мэта гэтага выдання будзе адна — прыцягненне расійскамоўных чытачоў да беларускай газеты і знаёмства іх з гісторыяй і культурай нашага народа.

**— Стварэнне дадатку да «ЧЗ» — частка дзейнасці створанага газетай выдавецтва?**

— Так. У свой час намі было створана выдавецтва «Маладняк». Цяпер яно ператварылася ў акцыянернае таварыства «Беларуская прэса», заснавальнікам якога з'яўляецца нашая газета. Акрамя «Чырвонкі», у яго ўваходзіць каля дзесятка іншых выданняў ды Беларускае тэлеграфнае агенцтва. Мэта існавання таварыства — падтрымка выданняў — удзельнікаў фінансава і арганізацыйна. Дзеля таго мы ўтрымліваем уласныя краму і кавярню, займаемся выданнем літаратуры — як камерцыйнай, так і некамерцыйнай. Мы маем уласныя прэс-цэнтр і салон выставаў. Збіраемся выдаваць асобную газету з назвай «Беларуская прэса». Уся дзейнасць таварыства скіраваная на падтрымку беларускага друку, узмацненне яго пазіцый у грамадстве і дзяржаве.

**— «Чырвоная змена» і «Наша слова» — выданні непадобныя. Але прыярытэтам іх абодвух з'яўляецца беларуская мова...**

— Так, і карыстаючыся нагодай, я хачу сказаць вашым чытачам, што нашыя газеты робяць адну справу. Я хацеў бы пажадаць ім не разгубленасці, а ўпэўненасці ў заўтрашнім дні, веры ў лепшую будучыню. Бо ўсе мы, такія непадобныя, з'яўляемся адным народам. Мы аб'ядналыя адной ідэяй і нашую ёй адданасць даказваем чынам.

**Распытваў У.ПАНАДА.**

*Наш каляндар*

# ЖОРСТКІ СТУДЗЕНЬ

28 студзеня 1936 года на Браніслава Тарашкевіча, супрацоўніка Міжнароднага Аграрнага Інстытута, была напісана характарыстыка:

*«Сподумка, прафесійная і грамадская*

*Дадзена таварышу Тарашкевічу Б.А., год нараджэння 1892, члену камуністычнай партыі Польшчы. Адукацыя вышэйшая. Валодае мовамі: польскай, нямецкай, французскай, расійскай і чэшскай.*

*Працуе ў МАІ ад снежня 1933 намеснікам кіраўніка аддзела Польшчы і краін прыбалтыйскіх і балканскіх; у мінулым знакаміты рэвалюцыйны сялянскі дзеяч Заходняй Беларусі.*

*Працуючы ў МАІ, выканаў шэраг каштоўных прац. Як кіраўнік аддзела праявіў сябе адпаведным супрацоўнікам. Дысцыплінаваны, мае здольнасць да настойлівай і прадуктыўнай працы, праяўляе ініцыятыву. Актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці (з'яўляецца рэдактарам насценгазеты), кіраўніком гуртка самаадукацыі».*

Характарыстыка была падпісана дырэктарам МАІ В.Каларавым і старшынём рады ўстановы Асборскім.

Першага лютага таго ж года невядома для якой установы Б.Тарашкевіч напісаў кароткую аўтабіяграфію. А ў наступным годзе шостага траўня Браніслаў Тарашкевіч быў арыштаваны ў сваёй маскоўскай кватэры.

Як жа апынуўся наш славуты навуковец, мовазнаўца, кіраўнік



БСРГ у Маскве? Упершыню ён трапіў туды ў снежні 1926 года разам з прадстаўнікамі КПЗБ і КПП (камуністычнай партыі Польшчы) нелегальна, каб супольна з дзеячамі Камінтэрна прааналізаваць сітуацыю і абмеркаваць падрыхтоўку актыву Грамады да працы ў новых, нелегальных умовах, а таксама выпрацаваць дырэктывы дзеля палітычнай кампаніі, якая павінна была наступіць пасля дэлегалізацыі.

Тады Браніслаў Тарашкевіч не забавіўся ў Маскве і ў канцы снежня вярнуўся дамоў, наведаў Вільню, Радашковічы. Усюды даваў парады на выпадак рэпрэсіяў, якія пасыпаліся неўзабаве. Калядны 1926 года шмат хто з грамадоўцаў сустрэў за кратамі. Тарашкевіча арыштавалі ноччу з 14 на 15 студзеня 1927 года, а ў лютым 1933 года быў асуджаны на 8 гадоў.

Пасля сямігадовага зняволення ў турмах Польшчы, дзе наш знакаміты даследнік пераклаў Гамераву «Іліяду» і Міцкевічавага «Пана Тадэвуша», Браніславу Тарашкевічу ўсміхнулася воля.

Дарэчы, кіраўніцтва КПП даўно ўжо пачало старацца пра абмен, і неўзабаве ўрад СССР дыпламатычнымі каналамі звярнуўся да польскага ўрада з такой прапановай. Як сведчаць дакументы, польскі бок у лютым 1933 года пачаў рыхтаваць адпаведныя паперы. У адным з дакументаў Міністэрства ўнутраных спраў Польшчы паведамляецца, што «6 верасня 1933 года ў Коласаве (цяпер аднайменная чыгуначная станцыя Стаўбцоўскага раёна — *З.С.*) адбудзецца абмен палітычнага вязня Тарашкевіча Браніслава на Аляхновіча Францішка. Выезд Тарашкевіча маецца адбыцца з аўторка на сераду апоўначы, прыбыццё пасажырскага цягніка на станцыю Стоўбцы а 13 гадзіне 50 хвілін».

7 верасня 1933 года Браніслава Тарашкевіча віталі ў Менску. Неўзабаве ён выехаў у Маскву.

**Паводле кнігі Аляксандры Бергман *«Слова пра Браніслава Тарашкевіча».* Падрыхтаваў З.СІЦЬКА.**

*Весткі з Салігорска*

## Школ ім мала, падавай яшчэ і гімназію

Старшыня Салігорскага гарвыканкама Мікалай Юрчык у канцы мінулага месяца быў падвергнуты моцнай атацы. Група прарасійску настроеных бацькоў запатрабавала ад яго змяніць моўны статус адзінай у горадзе шахцёраў гімназіі. Гэта навучальная ўстанова, як вядома, у выкладанні прадметаў карыстае роднае слова карэннай нацыі краіны.

Да гонару Мікалая Фёдаравіча, ён рашуча адхіліў праімперскія прэтэнзіі ды заявіў, што ў Салігорску дастаткова расійскамоўных школ, дзе могуць вучыцца на «великом и могучем» усе жадаючыя. Тым больш, горад параўноўча невялікі, кампактны і перавод вучняў у тую ці іншую школу не цягне за сабой дадатковых складанасцяў. Не, некаму хочацца вучыць дзетак у гімназіі, але толькі не ў нацыянальнай.

## Меркаванне прафсаюзнага лідэра

Як заявіў журналістам старшыня прафкама на вытворчым аб'яднанні «Беларуськалій» ад Незалежнага прафсаюза гарнякоў Мікалай Новік, яго вельмі засмучае непавага асобных грамадзян з ліку беларусаў да гістарычных каранёў нацыі, да «нашага сцяга», да беларускай мовы, якая павінна заставацца адзінай дзяржаўнай.

У Мікалая Мікалаевіча стварылася ўражанне, што некаторыя суродзічы падобныя на валацугаў, якія не шануюць сваю зямлю і не помняць уласных продкаў. Мова, культура, нацыянальная годнасць — гэта, як мяркуе прафсаюзны лідэр, што ўзначальвае арганізацыю ў 2 тысячы рабочых, тыя якасці працоўнага чалавека, без каторых ён не здолее ў поўнай меры адстойваць і свае сацыяльныя правы.

Кабінет Мікалая Новіка ўпрыгожаны бел-чырвона-белым сцягам ды іншымі атрыбутамі нацыянальнай сімволікі.

## Выставы ў Крывіцкай школе

Лесавік у шыкоўным капелюшы, хацінка Бабы-Ягі на курыных лапках, іншыя творы прыкладнога мастацтва ўпрыгожылі фае трэцяга паверха школы вёскі Крывічы, што непадалёку ад Салігорска. Гэта ўсё — экспанаты выставы «Сумная пара...», зробленыя рукамі вучняў.

З дапамогай настаўніцы Н.Н. Раманоўскай, што выкладае біялогію, дырэктара школы С.М.Кульбіцкага, іншых педагогаў дзецям прывіваецца любоў да прыроды, роднага краю, да Беларусі.

Побач з работамі дзяцей на выставе суседнічае і пано з саломкі настаўніцы Т.М.Усавай. Дарослыя і дзеці разам ходзяць у лес, дзе і знаходзяць «тэмы» будучых твораў. Выстава атрымалася цікавай.

**Мікалай АЛЕКСАНДРУК.**

# Лёс рэштак Мітрапаліта Фларыяна Грабніцкага застаецца нявырашаным

Нядаўна полацкім грэка-католікам былі перададзены рэліквіі вялікага рэлігійнага дзеяча і асветніка XVII—XVIII стст., полацкага арцыбіскупа і Мітрапаліта Кіеўскага Фларыяна Грабніцкага. Пад ягоным непасрэдным кіраўніцтвам быў адбудаваны полацкі Сафійскі сабор, амаль цалкам знішчаны расійцамі падчас Паўночнай вайны, калі па загаду Пятра I сабор ператварылі ў парахавы склад. Пасля смерці Мітрапаліт з вялікімі ўшанаваннямі быў пахаваны ў адбудаванай ім святыні. Рэшткі Фларыяна Грабніцкага былі там некранутымі да пачатку XX ст., калі іх выцягнулі са склепа падчас рэстаўрацыі. Па-рознаму складаўся лёс рэліквій на працягу XX ст., пакуль на пачатку 90-х гадоў, яны не былі перададзены ў Полацкі гістарычны музей, супрацоўнікі якога і аддалі іх вернікам.

Грэка-каталікі звярнуліся да ўладаў з просьбай — перазахаваць біскупа ў адзіным годным яго месцы — у мурах Сафіі. Улады стварылі адмысловую камісію, у якую ўвайшлі рознага рангу чыноўнікі на чале са старшынём Камітэта па справах рэлігій пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Аляксеем Жыльскім.

Як мне паведамілі ў полацкім кляштары св.св.Барыса і Глеба, спадзяванне на тое, што камісія прыме па гэтым пытанні пазітыўнае рашэнне, вельмі слабае, хаця манахі і вернікі моляцца ў гэтай інтэнцыі і поўныя рашучасці дамагчыся свайго. А тым часам, члены камісіі ніяк не могуць вырашыць, у якім месцы даць дазвол на перазахаванне. Аб якой жа цывілізаванасці дзяржавы можа весціся размова, калі чыноўнікі дэманструюць такія адносіны да асоб, якія сваёй дзейнасцю прынеслі славу Беларусі ў мінулым. У любой іншай краіне падобная ўрачыстасць праходзіла б на самым высокім дзяржаўным узроўні, з удзелам першых асоб краіны і трансляцыяй па нацыянальным тэлебачанні. У любой іншай, але не ў нашай. У нашай лічыцца нармальнай з'явай, калі з экрана тэлевізара кіраўнікі высокага рангу бэсцяць беларускую мову, нацыянальную сімволіку, гісторыю і культуру. Чаго ж патрабаваць ад чыноўнікаў рангам ніжэй? У гэтых паноў-таварышаў зусім іншыя каштоўнасці і прыярытэты.

Парадокс цяперашняга часу — можна з высокіх трыбун патэтычна заяўляць аб занепакоенасці лёсам нацыянальных святыняў ці, скажам, прывозіць у полацкую Сафію якія-небудзь замежныя дэлегацыі і разам з тым амаль нічога не рабіць дзеля таго, каб рэшткі чалавека дзякуючы якому і захаваўся гэты цудоўны храм, развівалася нацыянальная культура, у тым ліку мова, знайшлі вечны супачынак пад ягоным дахам. Бо ён герой «ня той», «няправільнай» гісторыі.

У наш час вельмі шмат гаворыцца і пішацца пра рост злачыннасці і падзенне маральнасці ў грамадстве. Гэтыя праблемы клапоцяць бадай што кожнага, але задамо сабе пытанне: ці можа быць маральна здаровым грамадства, у якім адкрыта зневажаюцца памерлыя продкі?!

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

Татарын Серафім Лук'янавіч нарадзіўся 13 лютага 1903 года ў сям'і селяніна-серадняка, які меў траціну ўчастка зямлі: 6 дзесяцін ворыва і луга. У 1913-1914 навучальным годзе закончыў 3 класы царкоўнапрыходскай школы ў роднай вёсцы Вострава Старавескай валасці Слонімскагаўезда Гарадзенскай губерні (цяпер Зэльвенскі раён), а пасля займаўся ў духоўным вучылішчы ў Жыровічах.

Першая сусветная вайна пагнала сям'ю Лук'яна Татарына ў бежанства ў Расію. Жылі ў Ніжнім Ноўгарадзе, дзе Серафім закончыў 3 класы духоўнага вучылішча. Пасля рэвалюцыі ён займаўся ўжо ў савецкай школе, закончыў два класы другой ступені, пасля чаго працаваў у аддзеле сацыяльнага забеспячэння. У краіне было неспакойна, ішла грамадзянская вайна, людзі галадалі, сям'я вырашыла вярнуцца на Бацькаўшчыну.

11 ліпеня 1920 года бацька купіў каня і воз, і яны паехалі на Беларусь. У роднае Вострава вярнуліся 22 верасня 1920 года. Але хутка Заходняя Беларусь апынулася пад уладай панскай Польшчы. Серафім Лук'янавіч спачатку працаваў вольнанаёмным настаўнікам у суседняй вёсцы Лабзова. Выкладаў на беларускай і расійскай мовах. Але гэта прадаўжалася нядоўга, бо школа была закрыта. Дзяцей загадалі вучыць толькі на польскай мове. І маладому настаўніку да 1929 года прыйшлося працаваць на бацькавай гаспадарцы. У гэты час ён пазнаёміўся ў роднай вёсцы з падпольшчыкамі, стаў актыўным прапагандыстам. У 1925 годзе яго прынялі ў КПЗБ. Серафім Лук'янавіч быў адным з першых камуністаў вёскі Вострава, дарадчыкам сялян і пачынальнікам усяго новага, барацьбітом за справядлівасць і выхаванне патрыятызму беларусаў. І першае даручэнне, якое ён атрымаў, — стварыць у вёсцы Вострава гурток Таварыства беларускай школы. Польскія ўлады патрабавалі дэкларацыю з 35 подпісамі сялян, па якой дазвалялася адкрываць школу. Ён гутарыў з сялянамі роднай вёскі, абышоў усе мясцовыя хутары, сабраў 80 подпісаў. Толькі на трэці год, нарэшце, улады прынялі дэкларацыю. Узрадаваўся настаўнік, што будзе вучыць дзяцей на роднай мове.

Па даручэнні КПЗБ ён працаваў намеснікам старшыні Слонімскага павятовага камітэта Грамады, а потым у Вільні. У сакратарыяце Грамады ў Вільні часта бывалі Максім Танк, Рыгор Шырма, Браніслаў Тарашкевіч і іншыя змагары за адраджэнне Бацькаўшчыны. Размовы з гэтымі людзьмі станоўча ўплывалі на светапогляд падпольшчыка. Цікавыя гутаркі былі з Міхасём Машарам, які жыў з Серафімам Лук'янавічам у Вільні на адной кватэры.

У 1927 годзе ў Вільні пачала выходзіць беларуская газета «Наша праўда». Рэдактарам яе і арганізатарам быў Серафім Лук'янавіч. За яго подпісам выйшла 19 нумароў газеты, тры з якіх канфіскавала цэнзура. Улады збіралі абвінавачыя матэрыялы на рэдактара-выдаўца, а дэфензіва выбірала зручны момант для арышту. Прыйшлося пакінуць Вільню. Пераехаўшы ў Наваградак, Серафім Татарын працаваў сакратаром павятовага сакратарыята клуба «Змаганьне». Пачаліся новыя клопаты і сутычкі з польскай дэфензівай. Тут ён у 1929 годзе быў арыштаваны і аддадзены пад суд. Шэсць гадоў прасядзеў ён у турмах — Навагрудак, Лукішкі, Слонім, Вонкі, Седльцы, Ломжа...

Толькі 5 студзеня 1936 года Серафім Лук'янавіч выйшаў на свабоду. Было яму тады 33 гады. Шасцігадовае прабыванне ў турме не зламала дух падпольшчыка. Вярнуўшыся ў роднае Вострава, знайшоў нявесту, задумаў ажаніцца, ды зноў наладзіў сувязь з падпольнай арганізацыяй КПЗБ. Меў сустрэчы з Сяргеем Прытыцкім, які часта наведваў Вострава. Тут ён зноў праводзіў растлумачальную работу сярод насельніцтва і моладзі.

25 красавіка 1936 года ён зноў быў арыштаваны і 14 месяцаў прасядзеў у Картуз-Бярозе. Вярнуўшыся дамоў, ён працаваў на бацькавай гаспадарцы і ўдзельнічаў у рабоце КПЗБ. Але ў 1938 годзе КПЗБ была распушчана Камінтэрнам, без падстаў абвінавачана за як бы контрэвалюцыйную і варожую дзейнасць супраць СССР. Хутка адбылося ўз'яднанне Заходняй Беларусі з Усходняй.

17 верасня 1939 года на першым свабодным мітынгу яго выбралі старшынём Часовага валаснога сялянскага камітэта ў вёсцы Дзярэчын.

Але НКУС «убачыў» у асобе Татарына С.Л. замаскіраванага класавага ворага. І 11 кастрычніка 1939 года органы НКУС яго арыштавалі за тое, што ён працаваў у контррэвалюцыйных арганізацыях — Беларускай сялянска-работніцкай Грамадзе, Таварыстве беларускай школы, «Змаганьні» і КПЗБ.

# Лёс настаўніка



Доказы яго невінаватасці не прымаліся, ад яго патрабавалі прызнання ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. У выніку ён быў асуджаны на 8 гадоў. Бацькава гаспадарка была канфіскавана, а сям'я вывезена ў Казахстан.

Пачалася Вялікая Айчынная вайна. 28 жніўня 1941 года ён быў вызвалены з турмы па амністыі і служыў у Чырвонай Арміі, быў на фронце, атрымаў цяжкае раненне. 18 жніўня 1945 года дэмабілізаваўся і вярнуўся ў родную вёску воінам-пераможцам.

Калі дажыналі першае пасляваеннае жыта, Серафім Лук'янавіч пешшу адправіўся ў райцэнтр. Дамоў вярнуўся ноччу ў гуморы: за дзень уладкаваў усе справы, звязаныя з адкрыццём пачатковай школы ў вёсцы Вострава Зэльвенскага раёна. А 1 верасня ён, узяўшы падручнікі, і, як ніколі, шчаслівы, пайшоў у школу. Вучні дружна прывіталі свайго настаўніка.

Пасля арганізацыі мясцовага калгаса «Радзіма» ў Востраве адкрылася і пачала працаваць сямігадовая школа. У гэты час Серафім Лук'янавіч закончыў завочна педвучылішча і гістарычны факультэт настаўніцкага інстытута. 17 гадоў ён выкладаў у роднай школе гісторыю, і першы ўрок у кожным навучальным годзе ён прысвячаў барацьбе працоўных Заходняй Беларусі за лепшую долю. Расказваў натхнёна, пераканаўча, цікава, быццам сваю біяграфію.

Пра свае жыццё і лёс ён напісаў вялікі артыкул, а таксама «Успаміны вязня канцлагера Картуз-Бяроза». Усё гэта захоўваецца ў школьным музеі, які калісьці арганізаваў сам.

Памёр Серафім Лук'янавіч у 1988 годзе. Пахаваны на высокім пагосце, што ля шашы Зэльва — Ваўкавыск.

Былыя вучні з прыемнасцю ўспамінаюць яго ўрокі, таму што на іх яны вучыліся жыццю. Мінула ўжо столькі гадоў, а вясковая назва «Дом Серафіма» захавалася і зараз. Больш за 10 гадоў ён быў на пенсіі, але амаль кожны дзень наведваў школу, пранікаўся штодзённымі турботамі вучняў і настаўнікаў. Аддзел народнай асветы Зэльвенскага райвыканкама рэкамендаваў настаўнікам гісторыі вывучыць вопыт настаўніка-пенсіянера Серафіма Лук'янавіча Татарына ў арганізацыі школьнага музея.

Сваім багатым педагагічным вопытам ён шчыра дзяліўся з настаўнікамі на канферэнцыях і метадычных аб'яднаннях. А вечарамі чытаў лекцыі бацькам у калгасным клубе, сустракаўся з моладдзю.

Я добра ведаў гэтага простага і шчырага, гаваркога і няўрымслівага чалавека. Сустракаўся з ім у яго школе, на розных раённых нарадах, у кнігарні, у рэдакцыі газеты «Праца», куды ён, як актыўны селькор, прыносіў свае артыкулы, успаміны, замалёўкі...

Серафім Лук'янавіч часта гаварыў, што лёс у жыцці выпаў на яго долю нялёгкі, і з перакананнем заўжды падкрэсліваў: «Але калі б давялося пачынаць усё спачатку — я не збочыў бы з абранага шляху...»

**Пётр МАРЦІНОЎСКІ, настаўнік беларускай мовы і літаратуры Дзярэчынскай СШ Зэльвенскага раёна Гарадзенскай вобласці.**

# Дзіўнае каханне князя

Вялікая несправядлівасць гісторыі ў тым, што падзеі, якія адбыліся шмат гадоў таму, калі і даходзяць да шырокага кола нашчадкаў, дык не ў аўтэнтычных скупых радках дакументаў, але праз прызму ўспрымання белетрыстаў, для якіх той ці іншы гістарычны факт — толькі сюжэт для мастацкага твора, і абыходзяцца з гэтым сюжэтам, як правіла, досыць вольна. Для любога жыхара зямлі, які знаёмы з творчасцю Шэкспіра, англійскі кароль Рычард III — страшэнны злачынца, які забіў уласнага брата, задушыў маленькіх пляменнікаў, падманам ажаніўся з удовай каралевай ды захапіў трон... І хаця англійскія гісторыкі даўно давялі, што Рычард III не здзейсніў ніводнага з прыпісаных яму злачынстваў і быў не больш чым ахвярай сапраўды злачыннага свайго наступніка па троне — Эдуарда, вобраз, створаны геніем Шэкспіра, захінае ад нас гэтую праўду. Хіба што знойдзецца другі геніяльны аўтар, які спапулярызуе іншы вобраз няшчаснага караля.

Як цяжка аб'ектыўна судзіць тое, што ледзьве разглядаецца скрозь цемру часу! І як асцярожна трэба абыходзіцца з тымі асобамі, што ўжо не могуць абараніць сябе, засведчыць ісціну, але — для любога верніка гэта аднязначна — недзе існуюць у бясконцасці, выкупляючы грахі зямнога жыцця ці пажынаючы плады былой дабрадзейнасці і ўзнагароду за несправядлівыя пакуты.

Беларуская гісторыя — таксама не выключэнне. Нават больш — бо не раз перапісвалі яе, каб дагадзіць тым ці іншым уладам; не раз то ўздымалі, то ганьбавалі тых ці іншых яе асобаў... Але нашмат больш асобаў і падзеяў засталося ад нас схаванымі, незапатрабаванымі. Таму радасна, калі адкрываюцца новыя старонкі гісторыі Беларусі перад сучасным чытачом... І дай, Божа, мудрасці тым, хто іх адкрывае, і тым, хто чытае іх, каб адрозніць праўду ад маны, сапраўднае ад прыхарошанага і прыпісанага... Сярод тых, хто адкрывае тыя малавядомыя старонкі, і не проста адкрывае, а папулярызуе — гісторык-белетрыст Ірына Масляніцына. Яе публікацыі даўно прыцягваюць увагу зацікаўленых чытачоў, хаця ацэньваюцца вельмі неаднaзначна. Вось які ліст-водгук на адну публікацыю Ірыны мы атрымалі ад нашай чытачкі сп. Галіны Самко:

*«Розныя мы людзі і розныя ў нас погляды. Гэта натуральна і бясспрэчна. Але існуе акрэсленая маральная мяжа, якую для кожнага чалавека любога ўзросту, нацыянальнасці, рэлігійных і палітычных перакананняў пераступіць нельга, калі толькі ён не законченый мярзотнік, нягоднік, патэнцыяльны забойца. Гатоўнасць перайсці гэту мяжу адрозненне чалавека ад нелюдзя дэманструюць сучасныя, афіцыйныя інтэрпрэтатары маралі і гісторыі Беларусі. Прыкладам гэтай грамадскай з'явы з'яўляецца артыкул вядомай Ірыны Масляніцынай «После свадьбы они расстались» пад рубрыкай «Он, она и вечность» у адным са снежаньскіх нумароў газеты «Вечерний Минск». У гэтым артыкуле аўтар натхнёна ўзвышае нізкую, подлую постаць «отважного князя Фёдора Бельского», які ў 1481 годзе па палітычных меркаваннях зазваў на сваё ўласнае вяселле караля Польскага, Вялікага князя Літоўскага Казіміра Ягайлавіча з мэтай яго забойства.*

*Напэўна ў гісторыі кожнага народа прысутнічаюць крывавыя падзеі, жорсткасць, подласць і бязглуздасць. Але іншага такога гістарычнага прыкладу праявы духоўнай гнюснасці, подласці, нізасці, ганьбы чалавечай годнасці, як у выпадку з Ф. Бельскім, цяжка знайсці. У названым вышэй артыкуле мярзотнік, гнюсны злодзей сярэднявечча робіцца нацыянальным героем, амаль святым пакутнікам, які заслужыў вялікае каханне пры жыцці і светлую памяць у стагоддзях. Здзіўляе і абурае гэткае ўвасабленне чалавечай вартасці.*

*Выклікае трывогу будучае народа, які мае маразматычных маралізатараў і гістарычных «асветнікаў».*

Згадзіцеся, тон водгуку даволі рэзкі, але ёсць у гэтай сітуацыі магчымасць паразважаць і вынесці суджэнне самому, бо тэма спрэчкі — вечная і для ўсіх цікавая: нязменныя паняцці праўдзівага кахання, подласці і вернасці. Таму прапануем чытачу пазнаёміцца з артыкулам Ірыны Масляніцынай, які мы пераклалі на беларускую мову.

## Пасля вяселля яны рассталіся...

Гэта было ў XV стагоддзі. Два праваслаўныя магнацкія роды з ліку старэйшых і самых паважаных на Белай Русі вырашылі парадніцца. Таму што мужны і адважны князь Фёдар Бельскі і юная князёўна Ганна Кобрынская пакахалі адзін аднаго. Рэдка здаралася так, каб каханню не перашкаджалі дынастыйныя патрабаванні. Але гэты шлюб павінен быў стаць выключэннем з правілаў.

Вянчанне было прызначана на адзін з летніх дзён 1481 года. Запрасілі высакародных гасцей і нават самога караля Польскага, Вялікага князя Літоўскага Казіміра Ягайлавіча. Ніхто не чакаў, што вясёлае шлюбнае застолле станецца крывавай трагедыяй. І менш за ўсё падрыхтаваная была да гэтага нявеста.

Калі справа тычыцца вялікай палітыкі, мужчыны часта забываюцца пра пачуцці сваіх выбранніц. Сярод праваслаўнай беларускай шляхты даўно ўжо спела незадаволенасць палітыкай Казіміра Ягайлавіча, які аддаваў перавагу сваім каталіцкім падданым і некалькі ўціскаў правы іншых. У галовах самых відных праваслаўных васалаў караля Польскага, Вялікага князя Літоўскага спела думка пра адлучэнне ад дзяржавы тае яе часткі, якую насялялі праваслаўныя беларусы, і далучыць яе да суседняга Маскоўскага княства. Змоўшчыкі вырашылі стварыць падыходзячую для здзяйснення задумы сітуацыю і забіць Казіміра Ягайлавіча. Адным з арганізатараў змовы быў Фёдар Бельскі. Каб забіць караля, трэба было выбавіць яго з Польшчы. І Бельскі не знайшоў нічога лепшага, як выкарыстаць для гэтага свае вяселле.

Усё ішло згодна плана. Казімір прыехаў у Кобрын на вян-

(Заканчэнне на с.8.)

# Кола сям'і

*Масару ІБУКА*

## Пасля трох ужо позна

*(Працяг.)*

### Можна развіць слых у дзіцяці з парушэннямі слыху

Дасюль я разглядаў схаваныя магчымасці нармальнага дзіцяці і важнасць ранняга навучання для развіцця гэтых магчымасцяў. Аднак, на жаль, у свеце ёсць нямала дзяцей з фізічнымі адхіленнямі: хворых поліяміэлітам, разумова адсталых, глухіх, нямых. Ранняе развіццё не павінна абыходзіць іх бокам, наадварот, менавіта ў сілу іх цяжкага становішча неабходна вызначыць іх недахоп як мага раней, каб з дапамогай тэхнікі ранняга развіцця кампенсаваць гэтыя недахопы, паколькі гэта магчыма.

Мне хочацца расказаць вам гісторыю, якую я нядаўна прачытаў у газеце: гісторыю пра дзіця, якое нарадзілася глухім, але пазней без цяжкасцей змагло ўдзельнічаць у размове дзякуючы велізарным высілкам яго бацькоў. Ацута, зараз яму 6 гадоў, нарадзіўся проста ўвасабленнем здароўя. Яму быў 1 год, калі яго бацькі заўважылі адхіленні, яны пыталіся ў сябе, ці ўсё ў парадку ў дзіцяці са слыхам, але пакуль не хваляваліся, мяркуючы, што іх дзіця — адно з тых, хто позна пачынае размаўляць. Але калі Ацута не загаварыў у 1,5 года, яны павезлі яго на агляд да лекара.

Бацькі звярнуліся па дапамогу да доктара Мацузаву — спецыяліста па лячэнні і выхаванні немаўлятаў з адхіленнямі слыху. Ён пачаў з таго, што навучыў дзіця пазнаваць на слых уласнае імя. Потым дзіця пачало вучыць іншыя словы. Паступова доктар злучыў словы са значэннямі, развіваючы ў ім рэшткі слыху, якія яшчэ засталіся. Доктар Мацузава лічыць, што ў раннія гады глухое дзіця сапраўды можна «навучыць» чуць.

Ён піша: «Толькі маці можа хутка зразумець, што ў яе дзіцяці нешта не ў парадку. Праз тыдзень пасля нараджэння немаўля рэагуе на гучны гук ці шум. Праз некалькі месяцаў немаўля пазнае голас сваёй маці, а праз чатыры месяцы — сваё імя. Калі дзіця не рэагуе на гучны шум ці не адказвае, калі яго клічуць па імені, можна падумаць, што ў яго нешта не ў парадку са слыхам. Прыкладна да 3 гадоў дзіця даведваецца многія словы, якімі карыстаюцца дарослыя ў штодзённым жыцці, таму гэтыя раннія гады — самыя падыходзячыя, каб навучыць розным словам дзіця з адхіленнямі слыху. Больш за ўсё трэба пазбягаць ізаляцыі дзіцяці ад гукаў, таму што ён нібыта іх усё роўна не чуе. Няпраўда, што нават зусім глухое дзіця не здольнае нічога чуць. Калі дзіця ўвесь час будзе чуць гукі, у яго разаўецца здольнасць чуць».

Такім чынам, высілкі бацькоў і абучэнне могуць развіць у дзіцяці здольнасць чуць, нават калі ён нарадзіўся з сур'ёзнымі адхіленнямі слыху.

### Частка 2
## Уплыў ранняга вопыту

### Галоўнае — акружэнне, а не гены

У папярэднім раздзеле я казаў пра спячыя здольнасці маленькага дзіцяці. А ці вырасце з пупышкі дрэва ці з бутона цудоўная кветка, залежыць ад таго, якія ўмовы вы створыце для гэтага і як будзеце даглядаць свайго апекаванца. На маю думку, у развіцці дзіцяці адукацыя і асяроддзе адыгрываюць большую ролю, чым спадчыннасць.

У Японіі праводзіўся цэлы шэраг эксперыментаў з блізнятамі, якіх ад самага нараджэння выхоўвалі ў розных сем'ях. Даследаванні паказалі, што нават блізняты, калі яны растуць у розных умовах і выхоўваюцца рознымі людзьмі, будуць вельмі адрознівацца адзін ад аднаго і па характары, і па здольнасцях.

Пытанне ў тым, якія адукацыя і асяроддзе найлепей развіваюць патэнцыяльныя здольнасці дзіцяці. Адказам на яго служаць вынікі, атрыманыя вучонымі, якія праводзілі разнастайныя даследаванні ў розных сітуацыях і рознымі метадамі. Акрамя таго, ёсць нямала прыкладаў, як бацькі, незадаволеныя школьнай адукацыяй, спрабавалі навучаць дзяцей самі. Да таго ж ёсць вынікі эксперыментаў, што праводзіліся на сабаках і малпах, і гэтыя вынікі таксама гавораць самі за сябе. Цяпер мне хацелася б абмеркаваць некаторыя з гэтых эксперыментаў.

*(Працяг будзе.)*

---

*Зялярскія гутаркі*

## «...Што капуста, то не гарбата»

Неяк выбіраўся селянін з гарадскім панічом у далёкі фальварак, а справа то была ўзімку, дык прапанаваў яму гаспадар капусты, але паніч адмовіўся, маўляў, ён гарбату піў. Не апрануў маладзён і кажуха, бо меў паліто на ваце. Калі ж дапёк мароз, то ўсё ж вымушаны быў закутацца ў авечае футра. Капусты ж селянін з сабою не ўзяў. Гэтую гісторыю распавёў у «Нашай ніве» знакаміты беларускі грамадскі дзеяч, драматург, паэт, празаік, мастак і скульптар, аўтар падручнікаў і мовазнаўца Карусь Каганец (Казімір Карлавіч Кастравіцкі). «Што кажух, то не вата, а што капуста, то не гарбата», — вуснамі свайго героя паўтарыў пісьменнік мудрае народнае выслоўе.

Нашы прашчуры спрадвеку вырошчвалі і спажывалі капусту — ведалі, што яна добра сыціць, але не тучыць. І сапраўды, пазней навукоўцы давялі, што 100 грамаў гэтага міжземнаморскага (менавіта з берагоў усходняй часткі гэтага мора паходзіць капуста) «зелля» дае толькі 40 калорыяў. Капусту можна есці ўволю, не баючыся, што патаўсцееш. Што праўда, есці яе трэба, прыглядаючыся да стану свайго здароўя, але пра гэта гаворка наперадзе.

Ужо старажытныя рымляне хрумсталі капуснае лісце, пераважна перад п'янкамі. Чытаў я ў старой кніжцы, што і нашыя шляхцюкі, збіраючыся ў госці, спажывалі нейкі напар з насення «валошскай» капусты. Але, пераважна, былі аматарамі капуснага расолу, дзе, як вядома, плавае кроп, які не дазваляе ўздымацца ў жываце збытняму «ветру». Мяркуюць, што менавіта з лацінскае мовы і пайшла назва капусты: ад compasta 'складзеная зяляніна', а, магчыма, ад caputium 'качан капусты'.

### «...хто яе дбае...»

Цудоўныя ўласцівасці капусты ведалі нашыя прашчуры, што і сведчыць беларуская народная загадка: «Круцестая, вярцестая, хто яе дбае, да ста год дажывае». Такое меркаванне пацвердзілі навукоўцы. Капуста мае багата амінаў жыцця: С (столькі, колькі і лімон), камплект вітамінаў групы В, а таксама А ды рэдка спатыканыя Е, К і Н (біяцін). Параўнаўча нядаўна сталі гаварыць і пра вітамін U, які паводле некаторых даследнікаў вітамінам не з'яўляецца. Але нам даволі таго, што ў капусным соку ёсць рэчыва, якое зажыўляе страўнікавыя язвы.

Язвы — гэта, як кажуць, цана, якую мы плацім за «сучасны» лад жыцця. Стрэсы, якімі нас шчодра адорвае «цывілізацыя», спрыяюць гэтай хваробе. Не абыходзіцца, вядома, і без удзелу сокаў, якія выдзяляюцца страўнікам. Гэта, з аднаго боку, — міцын, які прызначаны аберагаць абалонку страўніка ад «самастрававання». З другога — саляная кіслата і пепсін, якія ўдзельнічаюць у стрававнні. Але адзін міцын не спраўляецца, яму павінна дапамагаць адпаведная ежа. Утрымаць страўнікавыя сокі ў неабходнай канцэнтрацыі дапамагае, прыкладам, бялок, які нейтралізуе саляную кіслату і пепсін. А вось тлушч, мука, цукар парушаюць раўнавагу, ствараюць умовы для пашкоджання слюзавай абалонкі страўніка. Пазней у гэтым месцы ўзнікаюць язвы. Апроч бялку (пераважна, мяса і рыба) ды клятчаткі (яе больш за ўсё ў вотруб'і), зберагальнымі ўласцівасцямі валодае і свежая гародніна, асабліва, вядома ж, капуста.

### Біяхімічныя камбінаты ў качанах

Перш, відаць, трэба сказаць пра «залежы» ў качанах розных соляў: каля (K), натра (Na), кальца (Ca), магнэзу (Mg), жалеза (F), а таксама пра «радовішчы» мікраэлементаў: срэбра (Ag), тытану (Ti), малібдэну (Mo), нікелю (Ni), ванаду (V), цыны (Sn), волава (Pb). Такі цудоўны падбор сапраўды спрыяе актыўнай жыццядзейнасці. Але! Мы жывём у забруджаным асяроддзі, дыхаем паветрам, забруджаным аўтамабільнымі газамі, у якіх шмат волава. Гэты метал становіцца нашым ворагам. Ён трапляе ў арганізм не толькі тых, хто жыве блізка ад шашы, але і з гароднінай ды іншым харчам, выгадаваным на забруджанай глебе. А ў арганізме волава пачынае спрыяць назапашванню кальца (Ca) і памяншае колькасць магнэзу (Mg). Таму тым, хто асабліва шырока карыстаецца «дасягненнямі» цывілізацыі, раяць спецыяльна спажываць больш магнэзу (Mg). Ён выводзіць волава з арганізма, лагодзіць стрэсы, запаленні, алергіі, засцерагае ад іянізуючага выпраменьвання, рэгулюе цеплатворную функцыю арганізма і ўдзельнічае ва ўтварэнні антыцел. Найболей жа яго ў так званай даламітавай муцэ, у какаве, фасолі, соі, арахісе.

Прашу прабачэння за вымушанае адступленне, але чытачы павінны ведаць і пра тую лыжку дзёгцю, што можа папсаваць бочку мёду. А яго ж у капусце! Возьмем хоць бы так званыя свабодныя амінакіслоты — іх у качанах ужо выяўлена шаснаццаць, у тым ліку трыптафан, лізін, меціянін (яны не ўтвараюцца ў чалавечым арганізме), цыразін, гістыдзін. Каб мець уяўленне пра іх ролю, дастаткова сказаць, што праз недахоп трыптафана, як паказваюць доследы, мутнее рагавіца вока, узнікае катаракта.

Шмат у капусце і ферментаў: акісляльных — аскарбіназа, пераксідаза, цытахромаксідаза, а таксама тых, што расшчапляюць вугляводы: амілаза (раскладае крухмал), геміцэлюлаза, цукраза.

Згаданыя ды іншыя рэчывы з капуснага камбіната спрыяюць лячэнню апёкаў (расцёртым капусным лісцем напалам з сырым яечным бялком мажуць незагойныя язвы і апёкі), а таксама і абменным працэсам у арганізме. Незаменная капуста для лячэння ацёкаў. Каб вывесці лішак вады з арганізма, французскі прафесар Бінэ прапануе сваім пацыентам есці 300—400 грамаў свежа шаткаванай капусты. Раяць яе спажываць і хворым на дыябет. Амерыканскі доктар Гарнет Чыні хворым на язву даваў пяць разоў на дзень піцво з 100—200 грамаў капуснага соку і 50 грамаў соку з салеру (сельдэрэю). Пераважная большасць ягоных пацыентаў выздаравела праз 6—9 дзён, хаця лячэнне паводле традыцыйных метадаў працягваецца шэсць тыдняў. Наогул, доследамі навукоўцаў даведзена, што сок свежай капусты вылечвае язву ў 84,6% пацыентаў. Дарэчы, тэрапеўтычная моц соку залежыць ад гатунку капусты, глебы, пары збору качаноў ды іншых чыннікаў.

Але, мабыць, няма такога леку, які мог бы спажываць без шкоды кожны чалавек. Гэтак і з капустай. Не кожны хворы страўнік можа «пераварыць» свежую капусту, таму і раяць піць яе сок, а шмат хто ахвотней спажывае квашаную. Пазбягаць капусных страў раяць хворым на шчытападобную залозу. Апавядаюць, што ў Францыі выявілі цэлыя рэгіёны — там жывуць пераважна аматары капусты, — дзе на хваробу згаданай залозы скардзіцца надзвычай шмат людзей. Магчыма, і ў нас, на Беларусі, дзе цяпер шмат падобных хворых, варта было б падумаць пра спецыяльнае даследаванне. Шаноўным жа чытачам, хто адчувае патрэбу, раім самім паназіраць за станам свайго здароўя ў залежнасці ад спажывання капусты.

**ЗЯЛЯР.**

---

*Мудрыя гавораць*

## Ханс Крысціян Андэрсен

Падчас калядных святаў самы сур'ёзны чалавек успамінае, што на свеце існуюць казкі. А самым вядомым казачнікам свету, сапраўдным добрым чараўніком з'яўляецца Ханс Крысціян Андэрсен.

Нарадзіўся казачнік у 1805 годзе у маленькім дацкім мястэчку Адэнсэ. Бацька яго быў шаўцом, а маці — прачкай. Калі хлопчыку споўнілася пятнаццаць год, ён асірацеў і з некалькімі талерамі ў кішэні адправіўся ў Капенгаген шукаць шчасця. Ён вырашыў зрабіцца акцёрам.

Невядома, як склаўся б ягоны лёс, каб не шчаслівы выпадак. Андэрсен дабіўся, каб яго праслухала знакамітая актрыса. Яна ад душы пасмяялася, калі глядзела на скокі і камічныя сцэнкі няўклюднага хлопчыка. Але яна была разумным і добрым чалавекам і ўладкавала Андэрсена ў гімназію. Шмат кпінаў давялося зведаць там вялікаўзроставаму вучню ад аднакласнікаў — дзяцей багатых і ўплывовых бацькоў. Гэты перыяд свайго жыцця пісьменнік асэнсаваў у цудоўнай казцы «Брыдкае качаня».

Слава прыйшла да пісьменніка ў 30-я гады, але прыйшла яна за мяжой. На радзіме Андэрсена не дапускалі ў «эліту грамадства» — ён жа быў сынам шаўца, «выскачкам». Але яго дзівосныя казкі абляцелі ўвесь свет. Дарэчы, цяжка назваць Андэрсена менавіта казачнікам — ён і не лічыў сябе толькі такім і называў свае творы «казкі і гісторыі». У іх ёсць філасофскі погляд на грамадства і прыроду чалавека, тонкі псіхалагізм, іронія і пафас. Моц кахання, якая адольвае ўсё, самаахвярнасць і дабрыня супрацьпастаўляюцца свету мяшчанства, усюдыіснаму і таксама непераможнаму. Паэт і мяшчанства — пастаянная тэма казак Андэрсена. Бо паэт для мяшчука — абібок, якому дурнота ў галаву зайшла. І штучная ружа мае для гэтага свету больш каштоўнасці, чым жывая, сапраўдная...

У 1855 годзе, калі Андэрсену споўнілася пяцьдзесят гадоў, яго, нарэшце, прызналі і на радзіме. Ён стаўся ганаровым грамадзянінам горада Адэнсэ, у яго гонар учынілі ілюмінацыю і дзецям дазволілі ў гэты дзень не хадзіць у школу. Такім быў лёс беднага сына шаўца!

У свеце існуе найвышэйшая прэмія за лепшую дзіцячую кнігу, якую прысуджаюць раз у два гады. Гэта залаты медаль імя Х.К.Андэрсена. Прапануем чытачам рубрыкі выказванні з твораў вялікага казачніка.

Як неразумна было б з боку смычка і скрыпкі ганарыцца сваім мастацтвам. А як часта робім гэта мы, людзі — паэты, мастакі, вучоныя, вынаходнікі, правадыры! Мы ганарымся, але ж мы ўсе — толькі інструменты ў руках стваральніка. Яму аднаму гонар і слава! А нам ганарыцца няма чым!

Жахліва непрыемна заўважыць у гасцях, што ў цябе адарваліся гузікі ад падцяжак, што спражкі ненадзейныя, што іх зусім няма, але яшчэ непрыемней заўважаць, што жонка твая і цешча кажуць глупствы, і не быць упэўненым, што заўжды зможаш прыхаваць глупства дасціпным жартам.

У сучасным становішчы паэзіі мімаволі даводзіцца браць вядомы ўдзел у палітыцы, іграць хаця б ролю пыжа ў барацьбе партыяў, калі людзі праліваюць кроў або чарніла.

Птушка народнай песні не памрэ, пакуль на зямлі застаецца для яе хаця б адна кропка апоры! Птушка перакладае на нашу мову старажытныя пісьмёны, і дзякуючы ёй мы спазнаем сваю радзіму. Сам Бог гаворыць нам на нашай роднай мове вуснамі птушкі.

Усе мы абавязаны дзяліцца са светам лепшым, што ёсць у нас.

Сусветная гісторыя — чароўны ліхтар, які паказвае нам на цёмным фоне жыцця светлыя вобразы дабрадзеяў чалавецтва, пакутнікаў розуму, якія праходзяць па цярністым шляху славы.

У нашым сэрцы, ва ўсіх сэрцах, і ў маім, і ў тваім, схаваныя пачаткі ўсіх заганаў і ўсіх вартасцяў. Ляжаць яны там маленечкімі, нябачнымі зернеткамі; раптам у сэрца пранікае сонечны прамень ці дакранаецца да яго злая рука, і ты зварочваеш направа ці налева — так, вось гэты паварот і вырашае ўсё: маленькае зернетка набрыньвае, выпускае парасткі, і сок яго змешваецца з тваёй крывёю, а тады ўжо справа зробленая!

**Падрыхтавала Л.Ш.**

ВУЧЫМСЯ

Практычная стылістыка

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# З гісторыі красамоўства на Беларусі

## Крыж Ефрасінні

*«Крыж Ефрасінні Полацкай захоўваўся з XII стагоддзя да 1941 года. Насуперак волі і папярэджанню Ефрасінні ў паслякастрычніцкі час ён быў забраны з манастыра і перададзены музею. У час II Сусветнай вайны Крыж знік і след яго згубіўся...»*

**(З перыёдыкі).**

Бясцэнная рэліквія Беларусі была створана ў 1161 годзе на замову Ефрасінні Полацкай выдатным беларускім ювелірам, роўным па ўмельству візантыйскім майстрам, Лазарам Богшам.

Выяву Крыжа змяшчае першая беларуская марка; з яе распачынаецца гісторыя нацыянальнай філатэліі. Гэтым фактам падкрэсліваецца культурна-гістарычная вартасць полацкага помніка. Паводле меркаванняў вядомага сучаснага беларускага навукоўца Уладзіміра Конана, гэта *«сімвал палітычнай самастойнасці і культурнага росквіту Полацкага княства — старажытнага правобраза Беларусі»*. У гістарычным абсягу Беларусі постаць




Ефрасінні велічная і высакародная. Асветніца, ігумення-настаўніца была прадстаўніцай полацкай княскай дынастыі, мела вялікі грамадскі аўтарытэт: з'яўлялася ўплывовай палітычнай асобай, а знойдзеная археолагамі яе княская пячатка дазваляе назваць Ефрасінню Полацкую дзяржаўным дзеячам.

На паўметровым Крыжы — для сучаснікаў і нашчадкаў — Ефрасіння пакінула надпіс-пасланне. Правамерна сцвярджаць, што ў ім перададзена стылістыка арыгінальнага выказвання ігуменні, якая надавала Крыжу надзвычайную важнасць. Пасланне мае значнасць афіцыйнага дакумента, чаму спрыяе высокі сацыяльны статус Ефрасінні, агульнаграмадскі накірунак яе дзейнасці. Мова і разгортванне зместу надпісу адпавядаюць канонам складання афіцыйных дакументаў, у прыватнасці, формам канстатацыі, сцвярджэння і прадпісання. Строга захоўваюцца і такія патрабаванні афіцыйнага выказвання, як паслядоўнасць і дакладнасць, сціслась і недвухсэнсоўнасць, адсутнасць вобразнасці і адкрытай эмацыянальнасці. У традыцыі афіцыйнага паведамлення выклад вядзецца ад трэцяй асобы: ***«В лѣто 6669*** [па сучаснаму летазлічэнню — 1161 г.] ***покладаеть Офросинья чьстьный*** [святы] ***крест в манастыри своем в црькви святаго Спаса».***

Дакладнасць выкладу выяўляецца ў датаванні падзеі, у пераліку і каштоўнаснай ацэнцы матэрыялаў для стварэння і аздаблення Крыжа: ***«Чьстьное*** [святое] ***дрѣво бесцѣньно есть, а кованье его злото, и серебро, и камѣнье, и жьнчюг*** [жэмчуг] ***в 100 гривн...»***

Воля Ефрасінні ўвасоблена ў строгі загад з вызначэннем пакарання за яго парушэнне і пералікам сацыяльнага статуса або пасады людзей, якіх тычацца словы перасцярогі. У гэтай частцы выкладу пераважаюць безасабовыя канструкцыі, таксама характэрныя для афіцыйнага стылю: ***«Да нѣ изнесѣться из манастыря никогда же яко ни продати, ни отдати. Аше*** [калі] ***се кто прѣслушаеть*** [занядбае], ***изнесѣть и от манастыря, да не буди ему помощник чьстьныи крест ни в сь*** [гэты] ***вѣк, ни в будущии. И да будет проклят святою животворящею троицею и святыми отци... и буди ему часть*** [будзе яму доля] ***съ Июдою, иже прѣда*** [здрадзіў] ***Христоса. Кто же дрьзнеть*** [асмеліцца] ***сътворити се... властелин, или князь, или пискуп*** [епіскап], ***или игумѣнья, или ин*** [іншы] ***которыи любо человѣк а буди*** [будзе] ***ему клятва си*** [праклён гэты]».

Адметным і разам з тым характэрным для свайго часу паўстае заклён карай нябеснай, лёсам здрадніка Юды, — не юрыдычна акрэсленымі сродкамі, а больш дзейснымі, жыццяздольнымі, працяглымі ў часе існавання, пануючымі ў сферы маралі і духоўнага жыцця божымі, рэлігійнымі законамі. Моц праклёну Ефрасінні даказваецца яе праведнасцю: ***«Офросинья же раба Христова сътяжавъши*** [набыўшы] ***крест сии приметь вѣчную жизнь с всѣми святыми».***

У рэлігійных традыцыях, у форме малітвы прыведзены звесткі пра стваральніка Крыжа: ***«Господи, помози рабу своему Лазорю нареченему Богъши сърѣлавъшему крьсть сии црькви святаго Спаса и Офросиньи».***

Надпіс (з некаторымі скарачэннямі цытаваны тут па частках) вызначаецца сціслацю і змястоўнасцю. Важную стылістычную ролю выконваюць у тэксце дзеясловы і дзеяслоўныя формы, што складаюць інтэлектуальную аснову выказвання. Некаторыя з іх належаць да кніжных слоў і абазначаюць высокую ступень праяўлення дзеяння: ***прѣслушать, предать, дрьзать.***

Другі стылістычны адметны цэнтр утвараюць аднародныя рады назоўнікаў, выкарыстаныя для ўдакладнення паведамлення. У іх падрабязна пералічваюцца адзнакі Крыжа, акрэслены суб'екты паслання.

Трэці стылістычна і сэнсава значны цэнтр складаюць словы рэлігійнай тэматыкі, якія нясуць своеасаблівую заглыбленую, аскетычную эмацыянальнасць, перадаюць стрыманасць пачуццяў, накіроўваюць на пэўныя духоўныя ідэалы, увасобленыя ў выявах і аздабленні Крыжа. Сімвалам адукаванасці паўстае кніга ў левай руцэ Выратавальніка-благаславіцеля. Красамоўства сімвалізуе вобраз святога Іаана Златавуснага...

Такім чынам, надпіс на Крыжы — гэта афіцыйная прамова, накіраваная не толькі да сучаснікаў, а праз стагоддзі, — да наступнікаў. Яе выразнасць і моц пераканальнасці спрыялі захаванню Крыжа амаль 8 стагоддзяў, тым горшай пачуваецца страта.

Дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі, дзеячы культуры імкнуцца высветліць лёс Крыжа. Рэліквію шукае Інтэрпол. А пакуль намаганнямі Беларускай Праваслаўнай Царквы стварэнне копіі распачаў брэсцкі майстар Мікалай Пятровіч Кузьміч. Яго праца доўжыцца ўжо тры гады. Асновай Крыжа стаў асвечаны кіпарыс з Гефсіманскага саду.

Жыве надзея, што мы ўсё ж панясём Крыж Ефрасінні Полацкай нашчадкам і зразумеем глыбокі змест яе слоў.

Культура мовы

# «Пярліны» з куфэрка

«...Трэба толькі сачыць за яе (мовы — Л.Р.) чысцінёй. Асцерагацца моўных калек (калек — Л.Р.). Нам трэба вельмі добра пісаць, сачыць за спалучэннямі слоў, каб не даваць магчымасці здзекавацца са сваёй мовы. Я гэтых здзекаў наслухаўся ў першай хвалі беларусізацыі». (Максім Лужанін. «Мове трэба вярнуць забранае ў яе», «Наша слова» № 45, 1995 г.).

Нельга не пагадзіцца са слушным меркаваннем старэйшыны беларускіх літаратараў. Бо сённяшняя Беларусь — суцэльны «палігон» экалагічных, палітычных, эканамічных эксперыментаў на выжыванне этнасу. На схіле XX стагоддзя да вышэй памянёных далучыліся і аматары-эксперыментатары літаратурна-мовазнаўчых наватвораў. Вось некалькі прыкладаў таму.

Адкрыйце кніжку дэтэктыўных навел з інтрыгуючай назовай — «Кінжал з крыламі», што выдадзена ў 1994 годзе рэспубліканскім выдавецтвам «Юнацтва» і адрасавана вучням старэйшага школьнага ўзросту. У ёй нашы айчынныя перакладчыкі так «скукожылі» сусветна вядомых аўтараў дэтэктыўнага жанру (Эдгара По, Артура Конан Дойла, Агату Крысці, Жоржа Семянона і інш.), што старшакласнікі нават беларускамоўных класаў хутчэй возьмуцца перачытаць у французска-англа-нямецкім арыгінале вышэй памянёных славутасцей, чым у перакладзе на родную мову. Бо нават вялікі «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» 1970—80 гг. выдання пад агульнай рэдакцыяй акадэміка АН Беларусі К.Крапівы, што «ахоплівае агульнаўжывальную лексіку і фразеалогію беларускай мовы XX стагоддзя» (т. I, стар. 5), быў ім «да лямпачкі» і не дапамог прачытаць на матчынай мове той «Кінжал з крыламі». Чаму? Мяркуйце самі, што б гэта значыла:

— твар *спрэс* у жахлівых кровападцёках (стар. 18);

— чорная *пярліна* Борджыяў; *пярліна* знікла; палюем мы на *пярліну* Борджыяў (51—53);

— ён паваліўся ў *фатэль; фатэль* зарыпеў, як корпус карабля ў моры (75, 207);

— У свае рэчы апрануў Арналда і... павесіў яго ў *шатні*, нібыта плашч (77);

— тады я вырашыў скласці *тастамент* на карысць маіх трох кампаньёнаў (193);

— выйшла місіс Хупер з белай скуранай *валізкаю* (217);

— калі я канчаў другую *філіжанку* кавы... (218);

— выняў стары *вацок* і глянуў туды (241);

— Я пра ўсё гэта напісала і паклала ў *капэрту* (245) і інш. Шчэ куды ні ішло, што «коміны агледзеў *камінар*», але так і цягнецца сама рука пераxжагнацца, калі *«трунар* Альфонса Гарсіа сказаў, што жыве на вуліцы Морг» (17). Цяжка зразумець, каго ж папрасіў герой навелы «Сабака, які спіць» стаць побач — жанчыну ці рыдлёўку — у выразах: «З паветкі на другім канцы саду яна прынесла рыдлёўку. Я папрасіў яе, каб *яна* стаяла побач» (216). І падобных перакладчыцкіх «пярлінаў» надта ўжо зашмат у страшэнным «Кінжале з крыламі».

Ды Бог з ім, тым «старым вацокам» дэтэктыўшчыны.

Зірніце на зусім «маладое» апавяданне Галіны Багданавай «Поўня» («Полымя» № 10, 1995 г.). У ім аўтарка дзесяткі разоў вар'іруе любыя ёй формы слоў «ейны, -ая, -ае, -ыя»: ейны Мікола, дотык, арган; ейная сяброўка, хата, трывога, сястра; ейнае святло, месца, захапленне, прызнанне, каханне, жыццё; ейныя паперы, абцасы, словы і інш. Пісьменніца так зацыклена «заейнілася», што чытачу ажно робіцца млосна ад сапраўды светлага і таемнага кахання Ніны і Міколы пад акорды музыкі палотнаў Рушчыца.

Хай ужо «Газэта Свабода» адвольна піша пра *«Гішпанію* ды залатыя *сігнэты»* («Свабода», № 56 за 6 снежня 1995 г.), на тое ж яна і ўзяла сабе свабоды столькі, колькі зможа панесці. «Толькі ж есць мяне чарвяк» сумнення, што і дома, і на рабоце (тым болей, у навагодніх тостах) як перакладчыкі вышэй згаданых дэтэктываў, так і аўтарка «Поўні» гэтак весела шчабечуць: «якія цудоўныя ейныя вочкі», «пасядзі, каханая, у фатэлі», «падай мне, дарагі, з куфэрка пярліну», «выпі са мной, маё сонейка, філіжанку кавы», «твой мілы твар спрэс прыгожы» і г.д. А мо, шаноўная рэдакцыя, аматарам розных «спрэс» на іх гарачыя галовы патрэбны халодны кампрэс? Інакш ці тое яшчэ будзе, калі беларусы ўслед за моўнай рэформай правядуць і рэформу графікі ды пяройдуць з «мужыцкай» кірыліцы на «шляхетную» лацінку «...для самаідэнтыфікацыі і для пераадолення культурнай, псіхалагічнай і ідэалагічнай ізаляванасці ад Еўропы», як піша спадар Віталь Куплевіч у артыкуле «Патрэбная перспектыва» («Наша слова», № 49, 1995 г.).

Здаецца, шчэ не прайшло і дзвюх «пяцігодак», як слынны паэт Айчыны і мой зямляк Леанід Дранько-Майсюк папярэджваў: «...мы павінны змагацца за ўдумлівага, і менавіта прыгожага, і менавіта зацікаўленага беларускага чытача. Мы павінны думаць, навошта мы пішам і для каго...» («ЛіМ» за 17.07.1987 г.). Нажаль, у тлуме і турботах сённяшняй нялёгкай рэчаіснасці некаторыя айчынныя перакладчыкі і літаратары дзеля моды сваімі наватворамі здзекуюцца з цярплівага таго ж самага «зацікаўленага беларускага чытача». Хоць апошні і нядрэнна разумее, што мове трэба і вярнуць забранае ў яе, і спыніць русіфікацыю (паланізацыю-украінізацыю) беларускай мовы, роўна як і яе мудрагелізацыю. Бо і культурная «еўрапеізацыя» роднай мовы павінна ўсё-ткі быць цывілізаванай ды разумнай, а найперш, зразумелай мільёнам карэнных жыхароў Бацькаўшчыны.

Чытаеш цяперашнюю айчынную перыёдыку, дый думаеш: авой, то ці «У Багдадзе ўсё спакойна», шаноўнае пішучае спадарства, і ці заўсёды створаныя вамі «пярліны» зіхацяць і пераліваюцца ўсімі колерамі вясёлкі ды знаходзяць водгук і паразуменне ў сэрцы «шэраговага» беларускага чытача?

**Леанід РАМАНЕНКА,**
**настаўнік-ветэран Рамельскай СШ.**

Жывое слова

# Бор

*«Люблю я лес — адвечны бор»,* — пісаў калісьці народны паэт Беларусі Якуб Колас. *«Будзь здаровы, як рыжык баровы»,* — зычылі нашы далёкія продкі адзін аднаму. Звыклыя, усталяваныя для нас і такія азначэнні: *Векавы бор. Цёмны бор. Карабельны бор. Партызанскі бор.*

Кожнае слоўка ў гэтых азначэннях на сваім месцы, мае сваё адценне — прыкметнае, характарыстычнае. Усе яны натуральныя, з жыцця. Але апошнім часам невядома адкуль узялося і яшчэ адно спалучэнне з словам *бор* — «сасновы бор». Гэтае спалучэнне даўно мяне насцярожыла: што гэта яшчэ за «сасновы бор»? Навошта тут пры слове *бор* слова «сасновы»? Гэта ж само масла маслянае. *Бор* — гэта *бор*! Нашы продкі, калі казалі слова *бор*, ім усё было ясна і зразумела. Мы ж перайшлі на якуюсь апісальнасць, нібыта баімся, што слова *бор* без слова «сасновы» ўжо будзе не зразумета. І гэта неадзінкавы выпадак, калі спрадвечна беларускія словы перадаюцца апісальна, патлумачальна. У друку ўсё часцей і часцей замест слоў *кросны, баравік, ток, масла* пішуць «ткацкі станок», «белы грыб», «зернеток», «масла сметанковае». А наша ж мова тым і слынная, што яе моўныя сродкі надта эканомныя. *Масла* — гэта *масла. Кросны* — гэта *кросны, баравік* — гэта *баравік* і толькі. Але вернемся да слова *бор.* Яно шмат у якіх мясцінах з імя агульнага перайшло ў назоў уласны. Скажам, на Жлобіншчыне спрадвеку ёсць вёсачка, якая так і называецца *Бор.* І такіх назоваў на Беларусі шмат: *Вялікі Бор, Чорны Бор, Сухі Бор, Белы Бор, Добры Бор, Стары Бор* (прыклады з «Тапанімічнага кароткага слоўніка Беларусі» В.Жучкевіча). І нікому ніколі ў галаву не прыходзіла дадаваць яшчэ да гэтых назваў слова «сасновы». Бор бывае толькі сасновы. Іншых бароў на Беларусі не бывае.

Лес жа, у якім пераважаюць дубы, — гэта дуброва. А яшчэ на Беларусі шмат гаёў. Гаямі на Беларусі, як вядома, называюць лясы, у якіх пераважае бяроза.

Усё ў нашых продкаў было суладна. Таму дзіўна і нязвыкла бачыць, як імчыць па Менску аўтобус з шыльдачкай «Сасновы Бор».

Кажуць, што гэта так ветэраны назвалі свае дачы. Ну, калі так, то ўсё зразумела. Назва ўзнікла па аналогіі — «Партызанскі Бор». У 1964 годзе з'явіўся яшчэ адзін Сасновы Бор, у Верхнядзвінскім раёне. Гэтак тутэйшыя «філолагі» ад улады назвалі, перайменавалі вёску Галяшы. А наогул жа беларускаму слову *бор* не патрэбна азначэнне «сасновы». Беларус і так ведае, што *бор* — гэта сасновы лес. А вось для тых, хто не ведае, ёсць тлумачальныя слоўнікі. У іх гэтак і патлумачана: *«Бор — стары сасновы лес, які расце на высокім месцы».*

**Ул.СОДАЛЬ.**

Беларускае Адраджэнне

**Алена ЯСКЕВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук**

# Наўгародскі амасцікон 1282 года

Зразумела, што фарміраванне беларускай мовы як самастойнай сістэмы за параўнаўча нядоўгі час — XII—XIV стагоддзі — наўрад ці было б магчыма, калі б у ёй яшчэ ва ўлонні славянскай прамовы не існавала сваіх дыялектных асаблівасцяў. У строгім сэнсе, агульная старажытнаславянская мова ўяўляла сабой кайнэ, утворанае праз дыялектнае змешванне.

Але, на думку вядомага спецыяліста ў галіне гістарычнай граматыкі В.В.Іванова, мясцовыя дыялекты ў гэты ранні перыяд не маглі, зразумела, поўнасцю нівеліравацца, бо не існавала яшчэ тых гістарычных перадумоў, якія ўзнікаюць у эпоху складвання нацыянальнай мовы і прыводзяць да растварэння ў ёй дыялектаў. Відавочна, таму мясцовыя асаблівасці працягвалі развівацца. І гэта найбольш выразна назіралася на тэрыторыях, значна аддаленых, дзе паўночна-заходнія славянскія дыялекты цесна ўзаемадзейнічалі з іншымі, асабліва угора-фінскімі, мовамі — на васальных землях Вялікага Княства Літоўскага, напачатку яшчэ незалежных княствах, гарадах-рэспубліках Пскове і, асабліва, Ноўгарадзе.

Як неаднаразова адзначалі ў сваіх фундаментальных працах Фядот Пятровіч Філін і Яўхім Фёдаравіч Карскі, фанетычныя і лексічныя асаблівасці беларускай мовы назіраюцца і ў суседніх этнічна родных дыялектных масівах Чарнігаўшчыны, Смаленшчыны, Браншчыны, а таксама ў асобных рэгіёнах Пскоўшчыны і амаль па ўсёй Наўгародчыне. Пра гэта ўскосна сведчаць і помнікі дзелавога пісьменства (берасцяныя граматы), што былі знойдзены ў старажытных Смаленску, Віцебску, Пскове, Старой Русе і, больш за паўтысячы экзэмпляраў, у Ноўгарадзе.

Нягледзячы на жорсткі дыпламатычны канон, рысы старабеларускай мовы відавочныя і ў тэксце першага дакладна датаванага старажытнаславянскага дзелавога помніка на нашых землях — дагаворнай граматы смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгаю і Гоцкім берагам ад 1229 года.

Да ліку першых лексікаграфічных помнікаў на нашых землях варта аднесці рукапісны слоўнік «Рѣчь Жидовьскаго языка, преложена на Роускую, неразоумно на разоумъ, і въ евангелихъ, и въ Апостолахъ, и въ Псалтыри, и в Парміѣ і въ прочихъ книгахъ», які быў укладзены ў рукапіс Кормчай кнігі, перапісанай у 1282 годзе для наўгародскага архіепіскапа Клімента.

Рэестр слоўніка складаюць 174 словы, большасць з якіх — лексемы старажытнаяўрэйскай мовы, найчасцей — уласныя імёны:

**Жидовьскы — Роускы:**

**Матфѣи** —
*даный* (сучасныя мовазнаўцы выводзяць гэтае імя ад ст.-яўр. matitiāhū, matitiāh — дар Яхвэ (Бога), Божы чалавек);

**Фома** —
*бездьна* (ад ст.-яўр. tĕ'ōm — блізнец);

**Іаковъ** —
*послѣдний* (ад ст.-яўр. імя Ia'gōb — ён ідзе ўслед за кімсьці);

**Симонъ** —
*ловѣцъ* (ад ст.-яўр. імя Sim'ōn, параўн. šāma' — слухаць, чуць);

**Адамъ** —
*земля въплощена* (ад ст.-яўр. ādām — чалавек);

**Сара** —
*приди* (Сарра, ад ст.-яўр. імя Sārā — вяльможная, княгіня);

**Ревека** —
*радость* (Рэвекка, ад ст.-яўр. імя Ribgā, параўн. rabag — прывязаць);

**Рахиль** —
*присѣщение* (ад ст.-яўр. імя Rāhēl — авечка);

**Лия** —
*троудна* (мяркуецца ад ст.-яўр. імя Lĕ'a — анцілопа);

**Марьамъ** —
*просвѣщение* (Марыям; мяркуецца ад ст.-яўр. mārā — супраціўляцца, адхіляць, ці ад mārar — быць горкім);

**Соломонъ** —
*миръ* (ад ст.-яўр. імя Šělōmō — мірны, ад šālōm — мір);

**Давидъ** —
*възлюбленъ* (ад ст.-яўр. імя Dāuīd — любы);

**Михаилъ** —
*Божій ваєвода* (ад ст.-яўр. імя Mikā'ēl — роўны Богу (Яхвэ));

**Гаврилъ** —
*оумеша Божій* (Гаўрыіл, ад ст.-яўр. імя Gabrī'ēl — мая моц — Бог);

**Рафаилъ** —
*духъ Божій* (ад ст.-яўр. імя Rĕfā'ēl — Бог лячыў).

Наўгародскі лексікон 1282 г. даносіць да нас нават словы з найстаражытнейшай мовы, на якой былі напісаны Кнігі Старога Запавету — арамейскай, напрыклад: **Варфоломѣй** — *сынъ* (ад арамейск. імя Bar-Talmai — сын Талмая); ці яшчэ адна родная лексема памежжа арамейскай і старажытнаяўрэйскай моў: **Вениаминъ** — *сынъ боленъ* (ад арамейск. ці ст.-яўр. Ben-jamīn — сын дзясніцы (правае рукі), любы сын).

Згаданыя прыклады і супастаўленні сапраўды, на першы погляд, ствараюць уражанне, што сцвярджэнне К.Калайдовіча даволі слушнае, бо з дакладнасцю лексем і з правільнасцю іх тлумачэння ў рэестравых радах слоўніка цяжка пагадзіцца сучасным мовазнаўцам. І гэта натуральна, бо ў мове адбыліся істотныя змены.

Зазначым таксама, што, акрамя старажытнаяўрэйскіх, у слоўніку прысутнічаюць лексемы грэцкага і лацінскага паходжання:

**Филипъ** —
*оуста* (ад грэц. уласн. імя Philippos, параўн, philippos — той, хто любіць коней);

**Андрэй** —
*сила* (ад грэц. andreios — мужны);

**Петръ** —
*раздрѣшая* (ад грэц. petra — скала, уцёс; каменная выява);

**Павелъ** —
*свѣтьникъ* (ад лац. paulus — маленькі).

Сустракаецца шмат грэцызмаў і сярод агульных назоўнікаў: **ликъ** — *мысль*, (ад грэц. радаснае жыццё, абраз, выява, твар); **тина** — *грязь* (ад грэц. хмызняк, глей, неахайнасць, гушчар, бруд); **рогъ** — *сила* (ад грэц. моц, сіла, перавага); **исполинъ** — *силный* (ад грэц. волат, багатыр, герой); **олтарь** — *точило* (ад грэц. altare — алтар, месца для ахвяравання).

Талкаванне невядомым кніжнікам, складальнікам Наўгародскага амасцікона, слова «степень» як «лѣствица» (ад грэц. ступень, шлях, сцязя, глеба, аснова, цвердзь, крокі, чын царкоўны) дае падставы сцвярджаць, што, відаць, мелася на ўвазе духоўная лесвіца, па якой, паводле Іаана Лествічніка, узыходзяць чыны царкоўныя да святарства і душы вернікаў да Бога.

Наўгародскі лексікон 1282 года дае і словы змешаных каранёў, напрыклад: **Марко** — *заповѣдь* (ад грэц. уласн. імя Markos, што мяркуецца ад лац. marcus — малаток). **Кандратъ** — *мѣдь* (ад грэц. уласн. імя Kodratos, ад лац. guadratus — чатырохвугольны), **Лоука** — *въскрѣшаюй* (ад грэц. уласн. імя Lukas, лац. Lucas, параўн. лац. lux [P.n. lucis] — святло). Этымалогія ж слова «амінь» яшчэ больш цікавая: **аминь** — *право* (ад грэц. amen — сапраўды, ісцінна). Лексема, відаць, перайшла да хрысціян ад іудзеяў. Як і ў сінагогах, так і ў першых хрысціянаў, вернікі пасля дабраславення адказвалі ў пацвярджэнне «амінь». Ужывалася гэта дзеля большай пераканальнасці сцвярджэння: амаль усе творы старажытнай пісьменнасці заканчваюцца так, відавочна, ужыванне дадзенага слова — даніна звычаю. І ў заходнееўрапейскім кнігапісанні сярэдневяковыя аповесці і сказанні амаль усе завяршаліся «finito» — amen.

Натуральным атачэннем запазычаных слоў выглядаюць царкоўнаславянізмы: **зѣло** — *велми* (ад ст.-сл. — моцна, вельмі, дакладна, карпатліва, дасканала, выдатна); **неключно** — *ненадобѣ* (ад ст.-сл. непатрэбна, дрэнна, непрыгодна) і інш...

Лексікон «Рѣчь Жидовьскаго языка, преложена на Роускую, неразоумно на разоумъ, и въ евангелихъ, и въ Апостолахъ, и въ Псалтыри, и в Парміѣ и въ прочихъ книгахъ» 1282 года складаўся як прыточнік да Кормчай кнігі, своеасаблівага зводу царкоўных правоў і законаў, пра што сведчаць неалфавітнае размяшчэнне слоў, формы лексем не ў пачатковай іх форме, напрыклад: **роди** — *княжѣ заповѣди*, **што ци** — *около море*.

Паводле змястоўнага напаўнення наўгародскі слоўнік 1282 года — амасцікон, тлумачальнік імёнаў, найперш уласных, але і, што не менш важна, для лексікаграфічнай традыцыі, — імёнаў агульных.

Дадзены наўгародскі помнік сведчыць пра інтэнсіўны працэс фарміравання структурных асаблівасцяў старабеларускай мовы, дыферэнцыяцыю ў літаратурнай мове лексікі, разгаліненне кніжных словаў у свядомасці носьбіта за ўласныя і запазычаныя.

З нагоды

# Евангелле ад Васіля

У мінулым годзе адной з самых значных падзей у літаратурнай справе было выданне на беларускай мове Новага Запавету ў перакладзе лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Васіля Сёмухі, які ў гэтыя дні адзначае свой 60-гадовы юбілей, з чым мы яго сардэчна і віншуем. У час прэзентацыі кнігі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі карэспандэнт штотыднёвіка «Імя» **Вераніка Чаркасава** ўзяла ў Васіля Сяргеевіча інтэрв'ю, з якім з невялікімі скарачэннямі мы вырашылі пазнаёміць нашых чытачоў.

**Карэспандэнт: Васіль Сяргеевіч, дзеля таго, каб беларусы пабачылі Новы Запавет на сваёй мове, набор зрабіў у Канадзе Юрка Рапецкі, грошы на выданне кнігі даў Янка Запруднік, які жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі, а што ж было зроблена дзеля гэтага тут, у Беларусі?**

**В.Сёмуха:** Наш міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч, калі я прапанаваў яму выдаць гэтую кнігу, сказаў: «Калі ты, Васіль, знойдзеш нам саліднага спонсара, дык чаму б і не? Выдадзім...»

**— А якая ў гэтым пытанні пазіцыя ўладыкі Філарэта?**

— Ён быў і застанецца вечным ворагам гэтай справы.

**— Чаму ж?**

— Патрыярху не патрэбны пераклад Святога пісання нават на рускую мову, а тым болей на беларускую, царкве патрэбны толькі варыянт на царкоўнаславянскай мове. Пачалася ж гэтая праца якраз па ініцыятыве Філарэта. Гэта быў 1988 год, калі ішлі актыўныя працэсы беларусізацыі, і царкве таксама трэба было неяк прыстасоўвацца да хуткай змены абставін. Тады і была зроблена ім такая прапанова. Я зрабіў пераклад, аддаў яго ў спецыяльна створаную дзеля гэтага біблейскую камісію, але яе мой пераклад зусім не задаволіў. Справа ў тым, што, на іх думку, пры перакладзе дапушчальная толькі калька з сінадальнага выдання, з захаваннем усіх кропак і косак. Ды і некаторыя словазвароты, якія набылі ўстойлівасць, увогуле перакладаць не варта. Так, на іхнюю думку, «благадаць» няхай «благадаццю» і застаецца, што, на мой погляд, зусім недапушчальна, таму што па-руску «благо» гэта нешта светлае, добрае, а па-беларуску слова «блага» мае прама супрацьлеглы сэнс.

Пасля таго, як члены камісіі не прынялі мой пераклад і пасвойму адрэдагавалі яго, я сказаў, што не згодны з такім варыянтам і не магу паставіць пад ім сваё імя. Валянціна Дышыневіч, член біблейскай камісіі, на гэта мне адказала, што нічога страшнага ў тым не бачыць, таму што гэта — пераклад саборны, камісія яго падрыхтавала і будзе выдаваць... Але справа ў тым, што ніводзін раздзел Бібліі не пісаўся саборна. Евангелле ёсць вынік творчасці канкрэтных асоб — Матфея, Марка, Лукі, Іаана, і ніхто «саборна» ім не дапамагаў.

Калі Евангелле ўсё ж выйшла, то ў выхадных дадзеных не было нават упамянута маё імя. Было напісана, што кнігу пераклала, падрыхтавала да друку і выдала біблейская камісія Беларускага экзархата. З гэтага моманту я спыніў усе адносіны з імі. Я зразумеў, што беларускі пераклад царкве не патрэбны наогул. А пацвердзіла гэта мне ўсё тая ж Валянціна Дышыневіч. Пасля таго, як я прынёс пераклад першага з Евангелляў, яна сказала: «Упаўне дастаткова, каб выйшла Евангелле ад Матфея, можа быць, калі гадоў гэтак праз сорак узнікне такая патрэба, выдадзім Евангелле ад Марка. А дзеля прэзентацый, дзеля падарункаў, дзеля таго, каб паказаць, што царква павярнулася тварам да беларусаў, гэтага хопіць».

**— Атрымліваецца, што Вы перакладалі Евангелле наогул без кансультацый з царквою?**

— Не зусім так. Справа ў тым, што я знайшоў агульную мову з архіепіскапам Мікалаем, што жыве ў Кліўлендзе, галавою Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, якая існуе за мяжой, царквы законнай і прызнанай. Ён узяў мяне пад сваю апеку, папрасіў і далей займацца перакладам Бібліі. Я перакладаў і пасылаў рукапіс па раздзелах у Канаду Юрку Рапецкаму для набору. Рапецкі перадаваў набор архіепіскапу Мікалаю, які чытаў тэкст, рабіў свае заўвагі і прысылаў зноў мне. Прычым, матэрыялы мне прысылалі не па пошце, а перадавалі туды і назад з аказіяй, таму што калі архіепіскап паслаў мне неяк ліст на пяці старонках, атрымаў я толькі тры, а дзве зніклі па дарозе.

**— Ці многа заўваг па Вашай працы ўзнікла ў архіепіскапа Мікалая?**

— Ён адносна гэтага сказаў так: «Я магу зрабіць тысячу заўваг, напісаць іх на палях і падкрэсліць у тэксце. Але апошняе слова належыць перакладчыку. Будзе так, як ён скажа». Я бачыў, што ён паважае маю працу, і гэтак жа ставіўся да яго пункту гледжання, яго працы. Разумееце, пакуль я працаваў з нашай біблейскай камісіяй, мяне прывучылі ўвесь час азірацца на сінадальны, царкоўнаславянскі пераклад, і я неяк і сам стараўся лішні раз не ўступаць у пярэчанні з ім. А архіепіскап Мікалай час ад часу прапаноўваў такія беларускія варыянты перакладу, што мне іншым разам даводзілася іх нават аспрэчваць.

**— Напрыклад?**

— Напрыклад, ён прапанаваў перакласці выраз «Дом Божы» як «Хата Божая», чаго я не магу прыняць. А ўвогуле гэтае супрацоўніцтва аказалася вельмі карысным для мяне, таму што давала магчымасць падумаць над той жа «хатай», напрыклад. А чаму ён, служка Божы такога рангу, прапануе такі варыянт, чаму, на ягоны погляд, гэта магчыма? Думаю, што гэта ідзе ад пачування сябе беларусам да мозгу касцей, бо там, удалечыні ад радзімы, адчуваеш сябе куды большым патрыётам, чымся стоячы на гэтай зямлі.

**— Ці можна назваць гэты варыянт перакладу канчатковым?**

— Канешне, не, хутчэй гэта капрамісны варыянт паміж традыцыямі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. Магчыма, канчатковы варыянт з'явіцца, калі будзе выходзіць другое выданне, ужо са Старым Запаветам. Што да гэтага перакладу, я назваў бы яго экуменічным, таму што ён быў створаны ў супрацоўніцтве некалькіх цэркваў — праваслаўнай, пратэстанцкай, баптысцкай, пяцідзесятніцкай, была дапамога з боку каталікоў, уніятаў. У кнізе я выказаў падзяку Філарэту, які быў ініцыятарам гэтай справы, дабраславіў яе. Як бы ні склаліся нашы адносіны, я яму за гэта ўдзячны.

**— Як была ўспрынята Ваша праца на Беларусі?**

— Па-рознаму. Напрыклад, не так даўно зноў сабралася біблейская камісія, якая ўжо чатыры гады як была распушчана. З прычыны... перакладу Новага Запавету на беларускую мову.

**— Што ж ім не падабаецца ў Вашым перакладзе?**

— Адсутнасць саборнасці. Яе, на іх погляд, няма ні ў маім перакладзе, ні ў тым, які зрабіў Анатоль Клышка. Для службаў нашы пераклады, маўляў, не падыходзяць, там занадта многа аўтарскага, і наогул, патрэбен кананічны пераклад, які быў бы зроблены пры ўдзеле царквы. Таго, што мой пераклад дабраславіў і прыняў для богаслужэння архіепіскап Мікалай, які ўзначальвае прызнаную ў Беларусі самастойную праваслаўную аўтакефальную царкву, аказваецца, недастаткова.

**— А магчыма, справа не ў якасці перакладу, а ў саміх адносінах нашай царквы да перакладу Слова Божага на беларускую мову?**

— Я абсалютна ўпэўнены ў тым, што гэта іменна так. Не прымаецца любы адступ ад царкоўнаславянскага варыянта. Але гэта параджае свае праблемы. Вось чуе чалавек: «...молімся за благораствореніе воздухов...» Ці ж ён зразумее, пра што гаворка? Мая цётка малілася: «Отче наш, ежу ясі на небесі, дай нам есць хлеб наш насушаны...» Тыя, пра каго гаворыцца ў Бібліі, простыя людзі, пастухі, аратыя, рыбакі, і гавораць яны на мове, уласцівай простым людзям. У сярэднявечча за самастойнае чытанне Бібліі спальвалі на кастры, толькі святары мелі права чытаць Слова Божае ў арыгінале. Зараз атрымліваецца нешта падобнае. Але ж, калі на тое пайшло, ісціна існуе толькі ў арыгінале, напісаным на грэцкай ці старажытнагабрэйскай мовах. А пераклады — толькі копіі гэтай ісціны, каментары арыгінала, прычым, у трактоўцы перакладчыка. Але царква абвяшчае роўнасвятым арыгіналу царкоўнаславянскі пераклад, зроблены Кірылам і Мяфодзіем. Але ў такім выпадку што вы спавядаеце? Слова Божае ці пераклад ягоны? Царкоўнаславянская мова ўжо даўно мёртвая. То як тады можна служыць жывому Богу мёртваю мовай?

**— Васіль Сяргеевіч, а як складваюцца ў перакладчыка Бібліі адносіны з Богам?**

— Працуючы над перакладам, я адчуваў, што набліжаюся да Бога. Але чым бліжэй да Бога — тым далей ад царквы, настолькі ясна з кожным радком становіцца, што царква і Бог — паняцці несумяшчальныя. Царква — гэта параджэнне грэшнага чалавека, а Бог — гэта Бог, і кожны шукае Яго па-свойму, усё жыццё, але праз Біблію, бо толькі яна ў чыстым выглядзе Слова Божае.

**— Якімі крыніцамі Вы карысталіся пры перакладзе Бібліі?**

— Перакладамі Евангелля з царкоўнаславянскай, расійскай, нямецкай, каментарамі Лапухіна, дзе распісана, хто перакладаў Евангелле і які сэнс утрымліваецца ў арыгінале. Там ёсць падрабязны каментар практычна кожнага верша.

**— І яшчэ адно пытанне, якое, думаю, узнікне ў многіх: навошта ўвогуле трэба было перакладаць Біблію на беларускую мову?**

— Я пачынаў гэты пераклад дзеля самой мовы, якая сёння памірае, а мова, на якой чалавек можа гаварыць з Богам, адразу набывае іншы статус. На ўсіх мовах Біблія ёсць, а нам, беларусам, нават гэтага не дадзена, маўляў, у храме Божым гаварыць на гэтай мужыцкай мове — толькі Бога зняважаць. Але нам Бог даў іменна гэтую мову, і Ён яе разумее. І не мае значэння, ці будзе нейкі чалавек маліцца на ёй, калі Слова Божае ёсць на беларускай мове, да яго ўжо па-іншаму ставяцца.

**Пераклад з расійскай мовы.**

**Ад рэдакцыі.** Не ўсе, вядома, пагодзяцца з меркаваннямі шаноўнага і таленавітага Васіля Сёмухі адносна прынцыповага падыходу да перакладу Святога Пісання. Наколькі сапраўды адэкватна гэтая праца любому іншаму перакладу літаратурнага тэксту? Ці патрэбна саборнасць у перакладах царкоўных тэкстаў? Чакаем водгукаў.

